

Юбілейная алімпіяда→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Айчына ў слове→5

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 15 (3022) Год LIX | Беласток, 13 красавіка 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# На хвалях Радыё Рацыя

**Трансгранічнае Радыё Рацыя, якое вяшчае з Беластока, ужо ад года працуе пад кіраўніцтвам новага праграмнага дырэктара. Як змяняецца беларуская радыёстанцыя? Чым прываблівае слухачоў? З адным з найбольш вопытных беларускіх радыёжурналістаў, цяперашнім праграмным дырэктарам Радыё Рацыя Юркам Ляшчынскім размаўляе Уршуля Шубзда.**


racyja.com

**— 25-гадовы вопыт у радыёжурналістыцы. Помніце свае пачаткі на гэтай ніве?**

— У 1988 годзе я ўжо супрацоўнічаў з Ватыканскім радыё. Хачу сказаць, што гэта была мая першая, найбольш любімая станцыя. У Італію мы паехалі супольна з маім сябрам Міколам Ваўранюком. Падрэ Раберта, кіраўнік беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё дапамаг афарміць нам працу. Як можна было легальна афарміць працу для людзей, якія нелегальна прабывалі за мяжою, не ведаю. Усё ж такі кс. Роберт Тамушанскі гэтае зрабіў (*смех*). Увогуле я там перакананўся, што каталікі гэта не толькі палякі, як прывыклі мы думаць на Падляшшы, але і беларусы, і, як па ўсім свеце, так і ў Італіі талерантныя, а да чужых ставяцца добра, а нават з большым зацікаўленнем. Людзі, якія з намі там працавалі, зашчапілі ў нас такую цікавасць да журналістыкі, да радыё. Год пазней я выехаў у Мюнхен з думкай застацца ў „вольным свеце". Аднак гэта не была такая простая справа. Трапіў у гэтак званы лагер для эмігрантаў і чакаў месяцамі, каб афарміць легальную пабыўку. Пасля перамен у Польшчы ў Мюнхене мясцовых беларусаў наведаў прафесар Антон Міраловіч. Ён пераканаў, што ў Польшчы паўстае дэмакратыя, а на польскім радыё ў Беластоку будуць штодзённыя перадачы на беларускай мове. Патрэбныя былі журналісты. Заплата была вельмі невялікая, але я ўжо пасля месяца, 17 лютага, вярнуўся ў Польшчу, хаця фармальна на Радыё Беласток працаваў з 15 лютага 1990 года.

**— У 1990-2013 гадах Вы працавалі на Радыё Беласток у рэдакцыі нацыянальных меншасцей. Гэта 23 гады працы. Не было цяжка пакінуць „сваю" рэдакцыю і перайсці на Радыё Рацыя?**

— Было цяжка. Я ўжо раней меў прапановы ад старшыні суполкі Радыё Рацыя ў 90-х гадах, каб працаваць на гэтак званай „першай Рацыі". Падобна ў 2006 годзе ў час выбараў у Беларусі я паехаў як карэспандэнт Радыё Беласток, але з дазволу свайго начальства даваў карэспандэнцыі і для Радыё Рацыя, якое не мела яшчэ сваіх журналістаў у Беларусі. Ужо тады думаў аб гэтым, каб перайсці, але і гэтым разам пераважылі нейкія сацыяльныя прывілеі, якія трымалі мяне на Радыё Беласток. Цяпер вырашыў. Працу тут лічу з аднаго боку прыгодай, але і місіяй.

**— Як прыняла Вас рэдакцыя Радыё Рацыя? Як сябе адчуваеце ў фатэлі праграмнага дырэктара?**

— Тут зусім іншае радыёвяшчанне. Зусім іншая адказнасць. Там я быў адказны за свае справы і над сабою меў начальнікаў. Тут я адказны за справы праграмныя цэлага радыё і не толькі, бо яшчэ даходзяць іншыя рэчы, пра якія я дагэтуль не ведаў, што таксама належаць праграмнаму дырэктару. Маю людзей пад сабой, з падуладнага я стаў начальнікам, а гэта змена пагляду, змена ўсяго. Трэба было ахапляць думкай цэлыя 24 гадзіны праграмы ў суткі і бачыць, што будзе заўтра. Другая справа, што на Радыё Беласток 90 адсоткаў людзей можна было сустрэць на працягу тыдня ў адным месцы, у фірме. Тут пасля году працы я некаторых яшчэ ніколі не бачыў. Асабліва калі ідзе пра карэспандэнтаў з Беларусі. Тут кантакт, планаванне зусім іншыя.

**— Якія змены ўдалося ўвесці ў праграму Радыё Рацыя на працягу года працы?**

— На Радыё Рацыя трэба было напачатку падумаць, што гэта за сродак масавай інфармацыі, на каго яно накіраванае, які яго фармат. Скажам — Радыё Беласток мае свой рэгіянальны фармат. Радыё Рацыя гэта агульнабеларускае радыё, але таксама з ухілам рэгіянальным ці, скажам, памежным і гэта істотнае. Дзякуючы таму, што Радыё Рацыя паводле ліцэнзіі гэта таксама радыё нацыянальнай меншасці, то і Ты можаш прапагандаваць сваю беларускую Сакольшчыну і шмат матэрыялаў ёсць з Беласточчыны, з Гарадзеншчыны, такія, якія не знайшліся б на больш агульным вяшчанні.

**— Калі Радыё вяшчае для так шырокай аўдыторыі, ці не цяжка знайсці пастаянных слухачоў?**

— Перш за ўсё радыё гэта тыя, хто перадае і хто слухае. Найважнейшы на радыё — слухач. І Радыё Рацыя, у адрозненні ад іншых СМІ, мае канкрэтнага слухача, які ўключыць ці ў аўтобусе, самаходзе ці дома пры грылі, але ён уключыць радыёпрыёмнік. Маем тры віды слухачоў: слухачы ў цэлым свеце і ў той частцы на Беларусі, дзе не даходзяць хвалі ФМ, яны ў інтэрнэце на камп'ютары могуць паслухаць, могуць адслухаць любімую перадачу. Другі від слухача гэта слухач у Беларусі, які жыве ў памежным рэгіёне — ад Гародні па Ліду, Наваградак. І там слухач хоча даведацца, што дзеецца ў Беларусі. Трэці від — гэта слухачы на Беласточчыне. Тут слухачы крышку іншыя. Яны разлічваюць на справаздачы з Беласточчыны і на славуты „Падляшскі канцэрт пажаданняў". Слухачы на Беласточчыне лічаць яго сваім канцэртам, сваім радыё. І чацвёрты, яшчэ адзін від слухачоў гэта тыя, якія перасякаюць мяжу на машынах.

**— Слухачоў „Падляшскага канцэрта пажаданняў" напэўна не вельмі цікавяць палітычныя тэмы ці праваабарончыя перадачы. Ці магчымае, каб тэмы, праграмы былі цікавымі для слухачоў па абодвух баках мяжы?**

— Радыё гэта словы і музыка, а музыка вельмі істотная, бо ў кожнай, амаль у кожнай перадачы гучыць беларуская музыка. Ехаў я калісь машынай на падсадку са сваёй Орлі. Якраз Радыё Рацыя было ўключанае, ішла праваабарончая перадача, але музыка была беларуская і кіроўца дзеля музыкі яе слухаў. Паглядзіце, напрыклад на Беласточчыне мы выкарыстоўваем розныя дыялекты, суразмоўцы гавораць на дыялекце, на літаратурнай беларускай мове. Мала таго, слухач можа гаварыць на польскай мове або на расейскай. Для людзей з Беларусі могуць быць нецікавыя падляшскія праграмы — іх цікавіць Беларусь. І таму трэба захаваць прапорцыю ў эфіры. Думаю што 8-10% таго, што Рацыя перадае, гэта ўсё, калі гаворым пра праграмы з Падляшша. Агульнабеларускія справы дамінуюць. І такая наша мэта.

**— Яшчэ раз вярнуся да пытання як змянілася Рацыя на працягу апошняга года, як Вы змяняеце Рацыю? Ці змяняеце?**

— За год удалося ўвесці рэпартаж. Ёсць людзі, якія тым займаюцца, якія гэта любяць і прафесійна да гэтага ставяцца. Рэпартаж на беларускай мове — чагосьці такога ўвогуле не існавала ў беларускай прасторы. Прабаваў я гэта рабіць на Радыё Беласток, але там абыякава да гэтага ставіліся, асабліва кіраўніцтва сярэднята звяна. Увялі публіцыстыку, перадачу, у якой журналісты выказваюць свае меркаванні на розныя палітычныя тэмы. Увялі інтэрв'ю з цікавымі людзьмі, увялі канцэрты — кожны тыдзень рэтранслюем канцэрты, якія запісвала Радыё Рацыя, нядоўгія гадзінныя канцэрты. У канцы ўвялі дзённы эфір, чаго да майго прыходу не было, і яшчэ шмат іншых рэчаў.

**— А што не атрымліваецца? Чаго Вы не змаглі памяняць?**

— Нашы журналісты надалей не маюць акрэдытацыі ў Беларусі — толькі журналісты Рацыі і тэлебачання Белсат. Гэта таксама з'яўляецца прызнакам таго, што нас цэняць, любяць і ненавідзяць. Апошнім часам штораз часцей выклікаюць нашых журналістаў у пракуратуру і даюць папярэджанні за нейкія матэрыялы, у якіх штосьці „не так" паводле іх было сказана. Таксама некаторыя журналісты, грамадзяне Польшчы, неўязныя ў Беларусь.

**— Беларускае Радыё Рацыя можна лічыць прафесійнай станцыяй?**

— Прафесійнай так. Маем добрую сетку вяшчання, якая існуе дзякуючы майму папярэдніку. Вядома, змены робім, бо гэта мусіць мяняцца, але ўжо такая прафесійная сетка вяшчання ў нас ёсць. Сучаснае радыёвяшчанне ў гэтым напрамку развіваецца і нашае таксама. Можа чаго зашмат на Радыё Рацыя — гэта слова. Замала інфармацыйных справаздач, а замнога аўтарскіх. Хаця аўтары тых жа перадач часта рыхтуюць бягучыя інфармацыі.

**— Чаго чакаеце ад журналістаў, якія працуюць на Радыё Рацыя? Што найбольш цэніце ў сваіх працаўнікоў?**

— Цаню адказнасць. А чакаю новых прапаноў і цікавых тэм.

**— Не бракавала Вам пасля таго, як Вы кінулі Радыё Беласток і сталі дырэктарам на Рацыі, кантакту з людзьмі? Такой працы „у глыбінцы"?**

— Напачатку не бракавала мне гэтага. Тады думаў: колькі гадоў можна хадзіць з мікрафонам. Але дзесьці так пасля паўгода працы пачаў я зноў браць мікрафон у рукі. Вяртаюся да рэпарцёрскай справы, да чыннай журналісткі. Сам бачыў, як людзі рыхтуюць перадачы і крыху пачынаў ім зайздросціць. Скажам тыя ж рэпартажы. Мая сяброўка калісь сказала такія словы: „Галоўным ці дырэктарам бываюць, а журналістам ёсць і застаюцца пажыццёва".


9 770546 196000



# Без паняцця

— Што вы можаце распавесці? — пытае суддзя ў міліцыянера, які праяўляе сябе ў гэты дзень у розных іпастасях — ён жа і супрацоўнік міліцыі, ён жа і пратаколы пра правапарушэнне складаў, ён жа выкліканы ў суд і ў якасці сведкі... Але на судовым працэсе ў сённяшняй Беларусі, гэта не толькі законна, але ўжо за столькі год стала абсалютна натуральным. І нікога не бянтэжыць, што гэты чалавек як сведка ў вочы не бачыў факту парушэння, як складальнік пратакола не мае аніводнага сведкі, які гэта бачыў, а як да міліцыянера да яго ніхто не звяртаўся па дапамогу, ніхто не скардзіўся пра парушэнне і ніхто не выклікаў.

— У гэты дзень было свята, Дзень Волі, — тлумачыць сведка. — А паколькі я быў на службе, то мусіў праманіторыць некаторыя сайты. Бо мы мелі ўсе падставы меркаваць, што і ў Гародні такое вялікае свята людзі будуць неяк адзначаць.

І гэтыя словы ні ў кага не выклікаюць здзіўлення. Нават не шакуе сама абсурднасць сітуацыі, калі супрацоўнікі беларускай жа міліцыі сядзяць на адмысловых сайтах і вышукваюць як беларусы будуць святкаваць свята беларускай жа незалежнасці. Хай сабе не афіцыйнае свята на сёння, але ж беларускае.

— На сайтах мы ўбачылі фотаздымкі людзей з беларускім і ўкраінскім сцягамі, — працягвае сведка. — Таму мы іх выклікалі ў аддзел і склалі пратаколы за несанкцыянаваныя пікеты.

— Мы ў нашае вялікае свята выйшлі да памятных мясцін напрамую ці ўскосна звязаных з ідэямі Беларускай Народнай Рэспублікі каб сфатаграфавацца з беларускай сімволікай, — падаю я сваю версію абсалютна шчыра і праўдзіва. — Усё людзі на кожныя святы робяць нешта падобнае. Нехта фатаграфуецца з бутэлькай, хтосьці можа ўзяць партрэт цара Мікалая або выяву Сталіна. Ніхто гэтае фатаграфаванне не расцэньвае як масавую акцыю і парушэнне парадку. Мы зрабілі тое самае. Толькі адно было адрозненне ад прыведзеных прыкладаў — сімволіка ў нас была беларуская. Ды ўкраінскі сцяг узялі ў знак салідарнасці з нашымі братамі ўкраінцамі, якім зараз таксама нялёгка.

Ніхто з удзельнікаў працэсу пакуль што не называе нашыя дзеянні злачынствам. Толькі гавораць, што ім гарвыканкам паведаміў, што заяўку на масавую акцыю мы не падавалі.

— Але мы і не сцвярджаем, што падавалі, — тлумачу я. — Мы сцвярджаем, што фатаграфаванне на фоне, прыкладам, музея Максіма Багдановіча, які ўжо не працуе хіба па тых жа прычынах, па якіх мы тут знаходзімся, не з'яўляецца масавай акцыяй. Вось да мяне, як да былога дэсантніка, у дзень паветрана-дэсантных войск прыязджаюць саслужыўцы і фатаграфуюцца са старой дэсантнай сімволікай неіснуючай ужо дзяржавы ў розных кутках горада і ніхто на іх пратаколаў не складае, ніхто не судзіць. У чым розніца іх фатаграфавання ад нашага?

На гэтае пытанне сведка пачынае гаварыць, што нібыта горад дазваляе тое свята. Але ж я ведаю, што мае сябры аніякіх заявак на правядзенне акцый ніколі не падавалі. Ды і праводзілі яны іх у тых месцах, якія не вызначаны гарадскімі ўладамі для масавых мерапрыемстваў. І ўсе мы на тым працэсе ведаем, выдатна ведаем, што розніца тут толькі адна — на сваім фатаграфаванні мы трымалі беларускую сімволіку. Вось і ўся розніца. Ды яшчэ ў дадатак і ўкраінскую, якая, з нядаўняга часу, хіба што таксама выклікае ў пэўных асоб негатыўныя эмоцыі.

Нават не верыцца, што за сваё пераследуюць на сваёй жа зямлі. І што нават на судовым працэсе па-беларуску размаўляюць толькі абвінавачаныя. Здаецца, ужо можна было б і прызвычаіцца да такога абсурду, бо ўжо трэці год як за кратамі знаходзіцца мой сябра Алесь Бяляцкі. І не ён адзін. Але свядомасць кожны раз адмаўляецца прымаць такую рэчаіснасць. Каб мы былі пад абвешчанай акупацыяй, не так было б крыўдна. А так...

Аналітыкі яшчэ гадоў дзесяць таму гаварылі, што ў нас усё робіцца як у крымінальным свеце — па паняццях. Ды і гэтае вызначэнне ўжо хіба састарэла. Здаецца і паняццяў ужо не засталося. Я і не гавару пра нейкую, хаця б маральную, адказнасць. Усе ўсё разумеюць, але робяць... Без усялякага паняцця.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Біфштэкс
## з жывога бегемота

Большасць палітычных аналітыкаў згодны: Расія не спыніцца на Крыме. Няма іншага меркавання пра гэта і ў кіраўнікоў урадаў Злучаных Штатаў і Еўропы. Трагедыя ў тым, што ніхто не ведае, як гэта прадухіліць. У свеце, цалкам аблянівелым і непадрыхтаваным змагацца з таксічным міцэліем, нікому не мроіцца сып яго атаманага каляплодніка. Нават Пуціну. Яго ж ахапіў, аднак, воўчы голад, які з'яўляецца найчасцей вытворным ад сур'ёзных захворванняў. Трэба памятаць, што чым далей ад Масквы, тым больш расійская «глыбінка» фармалізуе сваю залежнасць ад цэнтральнай улады. На практыцы, уладу над чалавечымі розумамі пераймаюць прыроджаны ім анархізм і эгаістычныя інстынкты: прагнасць, пагарда да жыцця і бяздушнае стаўленне да прыродных рэсурсаў. Як памятаем, Сталін выдаў рускаму індывідуалізму татальную вайну, забіваючы непакорлівых мільёнамі. Ён таксама сфармуляваў дактрыну, згодна з якой працівагай цэнтрабежных сіл, якія пагражаюць адзінству дзяржавы, з'яўляецца пастаянны экспансіянізм навонкі. Здаецца, што Пуцін абтрос забытую дактрыну і выскаліўся воўчымі зубамі. Пакінем тут яго аскому на Прыднястроўе і Малдову, Літву, Латвію і Эстонію. Гэта ўсяго толькі закускі да асноўных страў. Гэтак жа, як Беларусь, хоць у яго да яе булімічныя адносіны — пажырае яе і адразу вырыгвае як пазбаўлены калорый агурок. Таму што на самой справе, што яму марнаваць энергію на страўванне дзесяцімільённай дзяржавы даведзенай да эканамічнага краху? Тым больш, што дзякуючы напружаным намаганням яе прэзідэнта, беларусы ў значнай ступені самарусіфікаваліся, выцясняючы з памяці граматыку роднай мовы і пачуццё ідэнтычнасці суверэнітэту. Акрамя таго, уключэнне Беларусі ў Расію для Пуціна з'яўляецца толькі пытаннем бяседнай лагістыкі, а не палітычнага разліку. Проста адгорне яе на бок талеркі, беручыся за асноўную страву. Але Украіна — не вустрыца, якую можна глынуць не разжоўваючы. Гэта па меншай меры бегемот з-над Ніла — калі ўжо трымацца прыроднай наменклатуры. Хоць бегемот злёгку ашаломлены, але ўсё яшчэ жывы. Гэта не проста, каб прыкончыць яго без выкарыстання цяжкай зброі, а яе пакуль што браканьер Пуцін не выкарыстоўвае, у адпаведнасці з расійскай мудрасцю «ціха едзеш — далей будзеш».

Параўнанне Украіны з бегемотам можа здацца спрэчным, але гэта апраўдана. Гэта другая па велічыні краіна ў Еўропе — якая, на жаль, не зусім упэўнена ў яе еўрапейскасці. Парадаксальна, аднак, з гэтай спрэчнасці бярэцца сіла Украіны. Яе велічыня і заадно патэнцыйная дзікасць выклікае павагу так Расіі, як і абараняючых яе незалежнасць краін: ЕС і ЗША. Іншая справа, калі б воляй большасці ўкраінцаў самі аддалі яе ў абдымкі Расіі. Я не сумняваюся, што тады тлустыя еўрапейскія бабры аддыхнуліся б з палёгкай і пайшлі назад у свае раскошныя хаткі. Адтуль узялася ідэя Пуціна, каб Украіну жыўцом нарэзаць лустачкамі. Тым не менш, я спадзяюся, што ўкраінцы, якія спакусіліся ілюзорнай ідэяй федэралізацыі, чуючы над вухам скрыгат пуцінскіх сталовых прыбораў, апамятаюцца ў пару і брыкнуць. Не дасца, аднак, выключыць, што многія з іх, нягледзячы на свой незаплямлены патрыятызм, безразважна ўвасобіліся ў ленінскую постаць карыснага ідыёта. Асабліва гэта тычыцца жыхароў Усходняй Украіны, падманутых расійскай прапагандай, паклёпнічаючай на шчырасць майданавага паўстання супраць уласнай, карумпаванай і раз'едзенай расійскай агентурнасцю дзяржавы. Падзеі мінулай суботы, калі прарасійскія сепаратысты на вачах украінскай міліцыі штурмавалі сядзібу абласной адміністрацыі ў Харкаве, як і раней, таксама з беспакаранасцю, у Данецку і Луганску, паказвае, што Пуціна не пакінуў воўчы голад, і не збіраецца адмовіцца ад біфштэкса з крывёю з украінскага бегемота. І што тут скажуць еўрапейскія бабры? Ну, будуць пляскаць хвастамі. Толькі ці гэта напалохае Пуціна?

**Міраслаў ГРЫКА**



**Вачыма еўрапейца**

# Беларускі акцэнт «ВЯНГЕРКІ»

Несумненна Драматычны тэатр імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку становіцца на Падляшшы адной з культурных устаноў, якая найбольш інтэнсіўна супрацоўнічае з Беларуссю. Тут таксама шырокая беларуская тэматыка займае вельмі важнае месца. Я не пішу пра гэта як член Мастацкай рады тэатра (разам з, у прыватнасці, прафесарамі Лявонам Тарасэвічам і Алегам Латышонкам), а ў якасці гледача, журналіста «Нівы», з тэатразнаўчай адукацыяй, назіраючага працу яго дырэктаркі Агнешкі Карыткоўскай-Мазур ад пачатку яе дзейнасці на пасадзе, якая — у адпаведнасці з дамовай — неўзабаве будзе на паўдарозе. У гэты беларускі трэнд беластоцкага драмтэатра ўпісаліся ўжо, між іншым, спектаклі «Чарнобыль. Last minute» па рэпартажах Святланы Алексіевіч і «Антыгона» аб польска-беларускім памежжы ў час пасляваенных дэмаркацый мяжы, у якой выступіў акцёр тэатра імя Янкі Купалы ў Мінску Алесь Малчанаў, чытанні тэкстаў беларускіх драматургаў Паўла Пражко, Дзмітрыя Багаслоўскага, Мікалая Радкоўскага, удзел у чытаннях акцёраў Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі і, нарэшце, у апошні час паказ «Дзядоў» Мінскага тэатра «Ч» у рамках беластоцкіх урачыстасцей Дня Волі. Неўзабаве ў «Вянгерку» прэм'ера «Эмігрантаў» паводле Славаміра Мрожка, у якіх адну з двух роляў іграе акцёр купалаўскага тэатра Алег Гарбуз. Тым часам дырэктарка Карыткоўская-Мазур якраз вярнулася з Магілёва, дзе ўдзельнічала ў якасці члена журы IX Міжнароднага маладзёжнага тэатральнага форуму «M@art.kontakt», фестывалю, які набыў сваю рэпутацыю дзякуючы прэзентацыі спектакляў, шукаючых новых сродкаў выражэння, уцякаючых ад акадэмізму. У гэтым годзе Гран-пры атрымаў спектакль «Містрас» Дзяржаўнага Малога тэатра Вільнюса, у рэжысуры Рымаса Тумінаса (аўтар сцэнарыя: самы папулярны літоўскі драматург Марыус Івашкевічус). Агнешка Карыткоўская-Мазур:

— Магілёўскі фестываль у прынцыпе арыентаваны на моладзь: для маладых аб маладых і зроблены маладымі. У гэтым годзе гэта не мела пацвярджэння. Увесь час я спраўвала знайсці агульную ідэю. Спектаклі былі з Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Балгарыі, Нямеччыны, Лондана, Кельц. Падстава «міжнародны» мела ўсё выправіць. Гэта была такая калекцыя спектакляў, якія ўзніклі ў апошнія гады, ад камерных да агромных на вуліцы, у прасторах дамоў культуры. Апрача спектакля Тумінаса пра Міцкевіча, дзе вельмі моцна прагучаў палітычны і грамадскі кантэкст, прадстаўленні былі адно «сабе і музам». Ні адна пастаноўка не будавала грамадскага кантэксту, не стала спрачацца з новай рэальнасцю, як быццам яна не існуе. Калі б гэта мела тольскі справу з тэатрамі ў Беларусі, я б зразумела, тым больш што такую тэндэнцыю назіраю ў беларускім тэатры. Але, магчыма, пра гэта была гаворка ў дафестывальных адборах. На маю думку, былі тры цікавыя выступленні, у тым ліку па фармальных і мастацкіх меркаваннях. Апрача «Містраса» — з фантастычнай камандай акцёраў — расійскі «Фаўст» і спектакль з Магілёва паводле Стрындберга ў пастаноўцы мастацкага кіраўніка гэтага тэатра.

Пасля амаль тыднёвага ўдзелу кіраўніка беластоцкага драмтэатра ў магілёўскім фестывалі паявіліся ўступныя планы на будучыню і гэта з'яўляецца вынікам праведзеных там размоў:

— На фестывалі арганізаваным Рымасам Тумінасам у Вільні хочам паказаць «Антыгону» і запрасіць яго „Містрас" у Польшчу. У супрацоўніцтве з Інстытутам імя Адама Міцкевіча і новай дырэкцыяй тэатра ў Магілёве, якая хоча перафарматаваць «Mart@kontakt», за год збіраемся паказаць «Антыгону» таксама на гэтым фестывалі, найлепш на плошчы ў Магілёве. Я размаўляла аб тым, каб арганізаваць у Беластоку фестываль-агляд альтэрнатыўнай культуры (тэатральна-мастацка-фатаграфічна-перформатыўна-музычна-фільмавы). У Магілёве знайшла я партнёраў, у тым ліку беларускіх. У будучыні плануем вялікі фестываль, ахопліваючы Беларусь, Літву, Украіну, у супрацоўніцтве з Інстытутам імя Адама Міцкевіча і партнёрамі на Захадзе. З кантактаў у Магілёве вынікла, што прымем удзел у трох фестывалях манадрамы ў Польшчы, Літве і Англіі з нашым новым відовішчам «Сасмаглы» («Spragniony»).

З дырэктаркай Беластоцкага драмтэатра я размаўляў якраз перад яе ад'ездам на прэстыжныя XXXIV Варшаўскія тэатральныя сустрэчы, фестываль, на які запрашаюць найлепшыя польскія спектаклі. У гісторыі ВТС беластоцкі тэатр яшчэ ніколі не прысутнічаў. Пакажа «Антыгону». Я спытаўся ў дырэктаркі, чаго спадзяецца ад прэзентацыі ў сталіцы.

— Я хацела б адчараваць месца, адкуль гэты тэатр прыязджае і гэтую частку гісторыі, якая альбо невядомая, альбо забытая, альбо наўмысна ўтоеная. Сёння тэатр, які не адносіцца да лакальнасці, сучасных падзей — прысуджаны на часовасць. Я маю на ўвазе, каб там паказаць тэатр, які дапамагае будаваць мясцовую самабытнасць і ставіцца да знікаючых каранёў.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# XX Алімпіяда па беларускай мове

Да цэнтральных элімінацый юбілейнага XX выпуску Алімпіяды па беларускай мове, якія 27 сакавіка адбыліся ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім, прыступіла 21 асоба. Былі гэта вучні Бельскага і Гайнаўскага белліцэяў і ліцэісты, што вучацца беларускай мове ў III Агульнаадукацыйным ліцэі ў Беластоку. Вядучай тэмай юбілейнага выпуску была творчасць Васіля Быкава.



Удзельнікі цэнтральных элімінацый беларускай алімпіяды з бельскай, гайнаўскай і беластоцкай школ






У чэрвені гэтага года прыпадаюць 90-я ўгодкі з дня нараджэння В. Быкава, а ў мінулым годзе, калі праходзілі школьныя элімінацыі алімпіяды, адзначаліся 10-я ўгодкі смерці сусветнай славы празаіка. Каб падрыхтаваць вучняў да алімпіяды настаўнікі аналізавалі больш яго твораў, чым прадбачвае праграма навучання. Размовы пра творчасць Быкава былі лепшай нагодай, каб у коле навучэнцаў беларускай мовы адзначыць угодкі пісьменніка.

— Сёлета будзем адзначаць 90-я ўгодкі з дня нараджэння Васіля Быкава і таму мы рашыліся вядучую тэму алімпіяды спалучыць з яго творчасцю. Аднак вучням трэба было рыхтавацца па ўсёй беларускай літаратуры, па якой адказваюць вусна, і па граматыцы беларускай мовы, бо, побач пісання сачынення, удзельнікі алімпіяды пісалі таксама граматычны тэст. Вучні адказваюць добра, глыбока раскрываючы тэмы. Відаць, што разбіраюцца ў гісторыі беларускай літаратуры. Слухаючы вусныя адказы я заўважыў выразны прагрэс у параўнанні з мінулымі гадамі. Адна з вучаніц цікава расказала пра народную абраднасць, іншая разумна гаварыла пра «Тутэйшых», — заявіў прафесар Аляксандр Баршчэўскі, старшыня Алімпіяды па беларускай мове, якую ладзіць Кафедра беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта.

Падчас вуснай часткі алімпіяды трэба было выказвацца па адной з трох выбраных у выніку жараб'ёўкі тэм. Аднак раней удзельнікі алімпіяды змагаліся з яе пісьмовай часткай. Вучням трэба было напісаць сачыненне на адну з чатырох прапанаваных тэм: 1. Праявы сапраўднага гераізму і аўтэнтычнай трусасці ў «Трэцяй ракеце» Васіля Быкава. 2. Каханне і смерць у «Альпійскай баладзе» Васіля Быкава. 3. Якую аповесць Васіля Быкава я стаўлю на першым месцы ў сваіх зацікаўленнях? 4. Роля пачуццяў у жыцці чалавека на аснове творчасці выбранага «белавежца». У граматычнай частцы пісьмовага экзамену ліцэістам трэба было ўпісваць у тэкст займеннікі або прыназоўнікі, паставіць у адпаведнай форме дзеясловы, адпаведныя словы ўстаўляць у іншы тэкст і дапасоўваць іх граматычную форму, а таксама абагульніць сказы словамі. Вучні перакладалі таксама з польскай мовы на беларускую тэкст з ухілам на прыроду і экалогію.

— Я першы год рыхтавала да алімпіяды ліцэістаў з беластоцкіх школ, якія вучацца беларускай мове ў III Агульнаадукацыйным ліцэі і таму не магу параўнаць сёлетнюю пісьмовую частку цэнтральнага этапу алімпіяды з мінулагоднімі. Аднак на маю думку складаным быў пераклад тэксту з польскай мовы на беларускую, дзе паявілася біялагічная і хімічная тэрміналогія, — сказала настаўніца беларускай мовы з беластоцкага ліцэя Іна Вянско. — Калі я рыхтавала вучняў да алімпіяды, мы разглядалі творчасць Васіля Быкава ў цэлым, маючы на ўвазе прапанаваны да падрыхтоўкі аб'ём матэрыялу. У прапанаваных да выбару тэмах трэба было разглядаць па адным канкрэтным творы Быкава і таму ліцэіст мусіў выказацца сваёй творчай ініцыятывай, каб разгарнуць сачыненне да дастатковага аб'ёму. Вучань мог рашыцца на чацвёртую тэму і аналізаваць выбраныя творы аднаго «белавежца», але ў гэтым выпадку мусіў дакладней ведаць яго творчасць.

— Калі вучань мусіў пісаць творчую работу толькі па адным творы Васіля Быкава, павінен прачытаць гэты твор, бо складана было ліцэісту справіцца з такой працай, калі ён прачытаў толькі фрагменты аповесці і апрацаванні па ёй, — дабавіла настаўніца беларускай мовы Гайнаўскага белліцэя Іаланта Грыгарук, якая прыехала на цэнтральныя элімінацыі разам са сваімі вучнямі. Гайнаўская настаўніца і настаўніца беларускай мовы Бельскага белліцэя Яўгенія Таранта адказвалі на пытанні сваіх белліцэістаў, што чакалі вусных выказванняў і стараліся ўпэўніцца, ці добра справіліся з граматычным тэстам. Вучні, з якімі я размаўляў, найчасцей звярталі ўвагу на складанасць перакладу тэксту на беларускую мову і гаварылі пра свае сачыненні.

— Я пісала сачыненне на тэму «Якую аповесць Васіля Быкава я стаўлю на першым месцы ў сваіх зацікаўленнях?» Прачытала цэлую аповесць «Сотнікаў» і рада, што без абмежаванняў магла напісаць пра тое, што лічыла важным, — сказала Дар'я Вапа з Беластока. — У час вуснага выказвання з трох тэм, якія выцягнула, я расказала пра тутэйшасць у «Тутэйшых» Янкі Купалы, бо гэты твор лічу цікавым.

Пётр Стэрлінгаў з Гайнаўкі таксама пісаў сачыненне па аповесці «Сотнікаў», бо зацікавіў яго псіхалагізм у творы, а ў час вуснай часткі алімпіяды расказваў пра творчасць Васіля Быкава і Якуба Коласа.

— Падчас вуснага выказвання я расказвала пра беларускія культурныя мерапрыемствы ў Польшчы — святкаванне Дня Волі, «Басовішча», «Бардаўскую восень», «Беларускую песню» і пра імпрэзы, якія ладзіць аб'яднанне АБ-БА і гэта была цікавая тэма. Сачыненне пісала пра аповесць «Сотнікаў» Васіля Быкава, бо гэты твор добра ведаю, — удакладніла Аляксандра Конюх з Беластока.

Аляксандра Якімюк з Гайнаўскага белліцэя была рада, што перад камісіяй магла расказваць пра «Новую зямлю» Якуба Коласа, а Іаанна Целушэцкая, таксама гайнаўская белліцэістка, пісала пра творчасць «белавежца» Алеся Барскага. Ліцэісты расказвалі таксама пра падрыхтоўку да алімпіяды.

— Многа часу мы адвялі на падрыхтоўку да вусных выказванняў, бо трэба было ўспомніць прачытаныя і аналізаваць новыя творы беларускай літаратуры. Мы таксама падрыхтаваліся расказваць пра беларускія сродкі масавай інфармацыі, беларускія мерапрыемствы, — гаварылі дзяўчаты з Бельскага белліцэя Аніта Дзмітрук, Міхаліна Сахарчук і Наталля Ракіцкая.

— Я ў пісьмовай рабоце аналізавала вершы Віктара Шведа, якія вельмі любіла чытаць у дзяцінстве, пісала пра вершы Яна Чыквіна і кніжкі Георгія Валкавыцкага, шматгадовага галоўнага рэдактара «Нівы», — сказала Дыяна Ткачук з гайнаўскай школы.

— Добра, што прапанавалася нам пісаць сачыненні па творах Васіля Быкава, бо мы многа аналізавалі творчасць гэтага беларускага пісьменніка, — гаварылі дзяўчаты з Бельскага белліцэя Паўліна Зінкевіч і Аляксандра Варшыцкая.

Дваццатая Алімпіяда па беларускай мове была добрай нагодай, каб спытаць пра яе значэнне для беларускага асяроддзя.

— Алімпіяда па беларускай мове вельмі важная для нас. Лічым яе нашай прэстыжнай алімпіядай, а ў рэйтынгу школ яе вартасць такая самая, як іншых алімпіяд. Гэта адзіная алімпіяда сярод нацыянальных меншасцей у Польшчы (маю тут на ўвазе ўкраінцаў, літоўцаў, ці славакаў, бо немцы маюць сваю алімпіяду здаўна па прычыне таго, што нямецкая мова агульнаеўрапейская). Радуе мяне, што вучні ахвотна прымаюць удзел у беларускай алімпіядзе і дабіваюцца добрых вынікаў, — сказаў дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк.

Настаўнікі беларускай мовы з ліцэяў звяртаюць таксама ўвагу на папулярызацыю беларускай літаратуры дзякуючы арганізаванай алімпіядзе. Вучні і настаўнікі беларускай мовы гавораць таксама пра прывілеі, якія чакаюць лаўрэатаў і фіналістаў алімпіяды. Хаця зараз з-за меншай колькасці выпускнікоў звышгімназічных школ лягчэй, чым было раней, паступіць у вышэйшую навучальную ўстанову, то надалей трэба дабіцца вялікіх поспехаў падчас матуральных экзаменаў, каб паступіць на прэстыжныя спецыяльнасці. Званне лаўрэата беларускай алімпіяды надалей дае магчымасць паступаць па-за конкурсам на прэстыжныя спецыяльнасці на Варшаўскім універсітэце і на выбраных іншых вышэйшых установах у Польшчы. Аб гэтым ведаюць ліцэісты, якія з ангажаваннем вучыліся перад цэнтральнымі элімінацыямі алімпіяды і разлічвалі на атрыманне звання лаўрэата або хаця фіналіста алімпіяды, якому таксама прызначаюць найвышэйшую колькасць балаў на матуральным экзамене па беларускай мове, у пашыранай формуле гэтага экзамену.

Пісьмовыя працы, так як і ў мінулых гадах, мела спраўджаць толькі адна асоба і на выніку цэнтральных элімінацый алімпіяды трэба чакаць. Будуць яны абнародаваны пазней.

— Калі пісьмовыя працы правяралі па некалькі асоб, паяўляліся закіды, што кожны правяраючы можа мець іншыя крытэрыі ацэнкі і мы рашыліся, каб усе працы правяраў адзін член нашай камісіі. Робіць гэта эксперт нашай алімпіяды прафесар Мікола Хаўстовіч, — заявіў прафесар Аляксандр Баршчэўскі.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Мае знаёмыя чытаюць „Ніву”

Зараз у краму Гміннай спулдзельні ў Нараўцы (Гайнаўскі павет) прывозяць два разы больш экземпляраў „Нівы” чым у сакавіку. У Новым Ляўкове ёсць сем чытачоў, у Старым Ляўкове і ў Плянце па чатырох. У Нараўцы наш родны тыднёвік чытае, між іншым, кіраўнічка калектыву „Нараўчанкі”. У адным і другім Ляўкове ды ў Плянце жыве трох пастаянных падпісчыкаў на „Ніву”. Я ведаю ўсіх тутэйшых чытачоў. Яны мае знаёмыя.

Былы ніўскі карэспандэнт і пастаянны падпісчык на родны часопіс Уладзімір Клімюк з Плянты (ён шматгадовы пенсіянер) пацікавіўся, што новага ў чатырнаццатым нумары „Нівы” і пры сустрэчы з ім 5 красавіка пахваліў мяне за допіс „Вясна над Семяноўскім возерам”.

Наведаў я спажывецкую краму з газетамі ў Нараўцы ў суботу, 5 красавіка. Былі ў ёй чатыры экземпляры „Нівы” № 14 ад 6 красавіка г.г. І былі ў ёй — як заўсёды — цікавыя артыкулы і рэпартажы. Я купіў два экземпляры.

Прадаўшчыца сказала мне, што пра беларускі тыднёвік пыталі вучаніцы нараўчанскага комплексу школ. Яны цікавіліся, ці ў „Ніве” быў допіс пра скульптурны конкурс у святліцы ў Старым Ляўкове, у якім яны ўдзельнічалі. Некаторыя вучні купляюць „Ніву” тады, калі ў „Зорцы” надрукаваны іх вершы або пісьмы. У першым красавіцкім нумары быў якраз надрукаваны лірычны верш Кацярыны Мучко, вучаніцы комплексу школ у Нараўцы.

У нядзелю, 6 красавіка я купіў у той жа спажывецкай краме ў Нараўцы два апошнія экземпляры „Нівы” № 14 для новаляўкоўцаў. Хто яшчэ будзе хацець купіць чатырнаццаты нумар, можа спытаць на пошце.

## Традыцыя не гіне

4 красавіка гэтага года ў самаўрадавай святліцы ў Старым Ляўкове (Гайнаўскі павет) маладыя і старэйшыя жыхары Старога і Новага Ляўкова ды Лешукоў мелі нагоду навучыцца маляваць яйкі акварэльнай фарбай і воскам ды красіць у цыбульніку. Вучыла ўсіх ахвотных самая вопытная ў нас у гэтай справе Марыя Рэент.

На працягу трох гадзін удзельнікі велікодных майстар-класаў памалявалі многа курыных і гусіных яек у самыя розныя колеры і ўзоры. У цыбульнік клалі яйкі, між іншым, з прымацаванымі гумкай лісточкамі розных раслін і іх выявы заставаліся на выдзіманках або цэлых звараных яйках.

Пры адным століку дзеці пад кірункам Крыстыны Паскробка і Альжбеты Кунцэвіч вучыліся ўпрыгожваць вербачкі, якія панясуць у Вербніцу асвяціць у царкве. Самыя цудоўныя кветачкі з рознакаляровай паперы выконвала спадарыня Крыстына. Затым вербачкі ўпрыгожвалі галінкамі аспарагуса і вузенькімі каляровымі стужкамі. Сёлета ўпершыню вучыліся ўпрыгожваць кошычкі для велікоднай свянцонкі.

Традыцыйна ўжо спяклі смачныя „буслявыя лапкі”. Лідзіі Харкевіч з Лешукоў дапамагалі іх рабіць дзеці. Яны і з нецярпеннем чакалі таго моманту, калі яны спякуцца і іх дастануць з печы.

На заканчэнне заняткаў быў салодкі пачастунак. Мерапрыемства (юбілейнае, дзесятае) арганізавалі Крыстына Паскробка (кіраўнічка староляўкоўскай святліцы), Альжбета Кунцэвіч (старшыня Таварыства „Ятрышнік” у Лешуках) і Галена Марыёля Рэент (дырэктарка Гміннага цэнтра культуры ў Нараўцы).

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



# Кузніцкая канкурэнцыя і пляц цудаў

Гродзенскія музыканты папярэдзілі: яны пешшу прыйдуць на Свята Волі ў Кузніцу.

— Трэба, каб перайшлі мяжу з бел-чырвона-белым сцягам, са спевам! — фантазіравала наша кампанія, едучы на святкаванне.

На краю лесу сінелі пралескі, цёмны лес шчодрымі жменямі прасякала сакавіцкае, вясновае сонца. У аўры адраджаючайся прыроды ўся нелегальшчына здавалася надуманай і несапраўднай...

Хоць не. Свята Волі ў Кузніцы выклікала дэманы мінулага. Наша рэдакцыйная сяброўка Уля Шубзда, якая з энергіяй і эмпатыяй узялася за арганізацыю святкавання, што крок была вымушана тлумачыць надуманыя пагрозы. Дзень да імпрэзы, калі здавалася, што ўсё ўжо дапрацавана і зладжана, з Дома культуры пазванілі ёй напалоханыя працаўніцы:

— Czy to prawda, że Woronko mordował Polaków?

Чутка, хоць сама па сабе здавалася недарэчнай, падзейнічала як дзікі вецер. Побач плакатаў з Пагоняй, дзе на лацінцы запрашалі на даклад пра Язэпа Варонку і музычны канцэрт, з'явіўся адбіты на ксераксе здымак, на якім былі пералічаны польскія вязні, затрыманыя камуністычнай бяспекай...

На святкаванне прыйшлі лічаныя асобы з вёскі, і гэта здавалася найбольш недарэчным у цэлым святкаванні. Праўда, гэты байкот кампенсавалі чыноўнікі і палітыкі, якія наведалі беларускае мерапрыемства. На Свята Волі з'явіўся сам Мечыслаў Башко, віцэ-маршалак Падляшскага ваяводства і Ян Квяткоўскі, войт Кузніцы-Беластоцкай.

* * *

Яшчэ больш як байкот з боку мясцовых прыгнятаў вобраз беларусаў, якія непарыўным патокам пераліваліся праз мяжу.

Перад урачыстасцю мы пайшлі на вёску, каб асабіста запрасіць мясцовых на свята. Сярод сустрэтых былі адно грамадзяне Беларусі. Яны тоўпіліся на кузніцкім рыначку, каб там здзейсніць апошнія падрыхтоўкі перад перасячэннем мяжы. Спачатку, калі мы падыходзілі да грамады, людзі адварочваліся задам, быццам афрыканскі статак перад атакай ільва. Людзі сваім целам закрывалі гурбы кітайскіх апранахаў. Калі з вялікай адлегласці я паспрабавала рабіць здымкі, у мой бок кінулася двух раз'ятраных маладзёнаў. У іх вачах палалі агрэсія і страх:

— Зачем фатаграфіруеце?

— Ну, гэта ж рынак...

— Я тебе здесь бл... пакажу рынак!

Добра, што на месцы з'явіўся мужык-дыпламат, які кружыў сабе паміж прылаўкамі і, здавалася, пільнаваў парадку. Пачуўшы ад нас беларускую мову, ён канспіратыўна заўсміхнуўся...

— Прыходзьце на святкаванне 25 Сакавіка! — запрасілі мы.

— А сёння ж 29, — падміргнуў нам, — нешта тут не так.




Расказ пра кузніцкае святкаванне гадавіны БНР не зрабіў уражання на нашым слухачы. Ён адмахнуўся рукамі як ад назойлівага авадня ды рассакрэціў нам тайны нездаровай атмасферы рынку. Не дарма гэтае месца ў Гародні называюць „пляцам цудаў”!

Праўда, тут праяўляўся практычны талент беларусаў і грамадская салідарнасць. На рыначку спыняліся аптавікі са сваім таварам закупленым у Варшаве і Лодзі. Гандляры-чаўнакі, якія ў сваю чаргу вярталіся з дробных пакупак з Беластока або Саколкі, падбіралі іх тавар і перавозілі праз мяжу. Кожная паслуга мела тут сваю цану. Напрыклад, за адны спартовыя штаны з лампасамі па баках, плацілі паўтара долара.

— А колькі пар дазваляюць перавезці ў Беларусь?

— Усё залежыць ад спрыту і вынаходлівасці. Я сам на сябе пяць пар надзяваю, яшчэ тры запхну пад канапу ў машыне, — паясніў нам мужык.

Перавезены тавар трэба здаваць у назначаных месцах, звычайна ў Гародні. Там выплачваюць у кішэнь грошы за паслугу.

— Няма ў вас спакусы, каб твар затрымаць сабе, — спыталі мы, — гэта ж намнога больша заробак.

— У мяне спакуса адна, — заўсміхнуўся гандляр, — каб кінуць усё гэта і пайсці з вамі на тое святкаванне! Кажаце, там музыканты ад нас будуць?!

* * *

Кузніца ў паабедні час напамінала мёртвую, абязлюджаную мясціну. Толькі дымкі, што настальгічна лунала з камінаў, паказвалі, што тут жывуць людзі...

Вяскоўцы ацанілі свае карысці ад прыезду беларусаў. Амаль на кожным panadворку стаяла крама з камп'ютарамі, бытавой тэхнікай, мэбляй ці спажывецкімі таварамі. Нават шпацыр па мясцовасці можа выглядаць як гандлёвая прапанова:

— Ці ёсць у вас цыгарэты? — зачапіў нас мясцовы падвыпіўшы дзядзька. Ён перапыніў нас у зваротнай дарозе, калі мы зноў вярталіся, не сустрэўшы жывой душы, з канца вёскі ў Дом культуры.

Папраўдзе ні цыгарэты, ні даклад пра першага прэм'ер-міністра Беларусі не цікавілі яго. Калі мы пачалі па-польску запрашаць на імпрэзу, ён без слова завярнуў на свой панадворак.

— Вы не рускія! — пачулася з дакорам.

Пасля, калі на свяце з'явіўся мясцовы Адам, усе прывіталі яго як першага лятучага бусла вясною. Так ці інакш на святкаванні мы налічылі каля пяцідзесяці чалавек, і амаль усе яны былі прыезджыя. Але запамяталася ветлівасць і шчырая дапамога ад мясцовых працаўніц Дома культуры. У пэўны момант, калі сонную мясціну скалыхнуў метал-канцэрт групы „Dead Insemination”, у святліцу забеглі групы мясцовай моладзі. Не ведаючы, што дакладна адбываецца, яны тоўпіліся ў групах і шапталіся:

— Szkoda, że nikt nie powiedział, że taka fajna muzyka będzie...

Што тут дадаць. Здаецца, такі класны гурт як гродзенскія „Людзі на балоце” яшчэ ніколі не выступаў у Кузніцы-Беластоцкай.

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**

Лондан, Адам, паэзія, мы

# Знайсці айчыну ў слове

Дом, значыць, дзе ён? Ці можна вярнуцца ў месца, якое мы раз ужо пакінулі? Кажуць, што не. І ў той час дом з'яўляецца месцам, куды заўсёды можна вярнуцца. У гэтай супярэчлівасці прыйдзецца нам правесці сваё жыццё.

Яны з'ехалі. Пакінулі свае першабытныя месцы. У пошуках працы, людзей, прыгод, жыцця, кахання. Сталі жыць у флатах, гостэлях, пакоях, дамах. Часам хтосьці з іх адчуваў, што ўрэшце з'явіўся там, дзе заўжды хацеў быць. Бывала, непрыкметна, адчувалася недзе ў патыліцы — нявыказная, усё ж, думка што ты — не ў сябе. Паяўляецца яна ў дзіўных момантах, ненаўмысна. А можа гэта — спеласць?.. Матэрыяльны свет дазваляе збудаваць пейзаж. Жыццё праз пачуццёвасць здаецца мець цвёрдыя фундаменты. А праз момант можа аказацца, што — зноў валізкі, прастора паміж «з» — «у». І так некаторыя сталі жыць у слове. У няўлоўнасці, некранальнасці, неўспрымальнасці. Быццам на хвіліну. Несвядома. А калі кант чамадана стаў зноў муляць, калі дабытак зноў апынуўся ў камеры захоўвання багажу, аказвалася, што слова зноў прымае іх у поўнай цішы і лагодзе.

Паэт не прадае слоў. Ужо вядома, чаму. Перастаў бы ім быць. А па чым пазнаць, што ўжо ім не ёсць? Не па тым, аб чым ён гаворыць, не па друкаваным у літаратурных часопісах, не па ўзнагародах. Гэта своеасаблівы спосаб адчування. Спантанная дасведчанасць.

Ці можна

### склікаць паэтаў?

Так. Калі пачуюць яны кліч паэзіі — адкажуць. Паявяцца са сваёй усмешкай, лісткамі з вершамі, зборнікамі, унутранай музыкай. Бясшумна. І будуць слухаць, размаўляць. І чытаць свае вершы.

У верасні 2010 года Адам Сяменчык, родам з Гарадка, разам са сваёй сястрой Мартай Брасарт, вырашылі, што адчыняюць дзверы PoEzja Londyn. Лівінгрум у сваёй кватэры замянілі ў паэтычны салон. Прыйшоў больш за дзесятак асоб. І былі сшыткі з запіскамі. На другім баку размовы аказалася, часам на здзіў, што тая другая асоба піша. Нават вялікія лонданскія «круцялі» з татуіроўкай выцягвалі са сваіх скрытных месцаў сваю творчасць. Адкуль? З кішэняў, торбаў, шафак на трэнажорнай. І паказвалі. Такое непаказное, і такое важнае. Адкрывалі перад Адамам і Мартай справы настолькі інтымныя, што аб іх не ведалі нават іхнія найбліжэйшыя асобы.

Прыйшоў час напісання ліста. Важнага ліста ў Рэдакцыю. З ліку розных літаратурных часопісаў выбралі «Poezję Dzisiaj». І не так з-за Аляксандра Наўроцкага, як з-за ягонай жонкі Барбары Юркоўскай. Атрымалі ліст, што творчасць спадабалася і што іх у Лондане наведаюць вясной. На Каляды малі цешыцца першым надрукаваным, кранаць экземпляры пахучыя свежай друкарскай фарбай. На сцэне сустрэліся першы раз у 2011 годзе, у лютым, у Лондане, на імпрэзе «Mój JES TEM kawałek podłogi. PoEzja Londyn zaprasza». Як яны цешыліся, што могуць паказацца свету! Ад Аляксея Врубеля атрымалі на адзін вечар «Jazz Cafe POSK». Вялікая гала. Музыкі, фатографы, макіяжы, інтэрв'ю... Юзаф Скшэк скампанаваў для іх «Шчаслівых з горада Л.». І такімі яны сябе адчувалі, і такімі былі. Зразумелі, што іхнія веды аб тым як жыць у паэзіі дадзеныя не толькі ім.


Адам Сяменчык і Марта Брасарт

### Паэзія яднае і ратуе

Матэрыялізаваліся тыя постаці, якіх ведалі толькі з ліставання. Наладзіліся новыя сяброўствы. Канцэрт працягваўся пару гадзін. Маглі прачытаць пра сябе ў мясцовым друку. Некаторыя назвалі іхнюю імпрэзу найбольшай культурнай падзеяй ад уваходу Польшчы ў Еўрасаюз! Чарговыя сустрэчы. Літаратурная старонка ў «The Polish Observer» — штотыдзень мелі там сваё месца на літаратурныя прэзентацыі.

На шчасце, Марта мела аўто, дык пачалі падарожнічаць па Вялікабрытаніі. Першая сустрэча адбылася ў рамках Сусветнага дня Паэзіі ЮНЕСКА. Сімвалічна ўстаноўлены ён на першы дзень вясны. Лонданская падзея была прапрэм'ерай, якой працяг наступіў у Польшчы пад камандаваннем Аляксандра Наўроцкага. Прадстаўлені ідэі «ПаЭзіі Лондан». Адна з іх — дадаваць адвагі, нават калі нам самім яе не хапае — засталася адной з вядучых. І так дайшлі да Бетфарда, Ньюкасла, Бірмінгема, Польшчы, Балгарыі, Венгрыі... Пачаліся паказвацца першыя кнігі з лагатыпам «ПаЭзіі Лондан», між іншым кніга Міры Лукшы «Biały stok».

Чарговая вясна, 2012 года. У гэты раз сцэнічная сустрэча называлася «Паэзія ацаляе». Зоркай фэсту быў Кшыштаф Занусі. Зноў прыехалі паэты з дзесяці краін. І тады ўжо было вядома, які жалезны склад каманды. Без білетаў, рэгламенту, сакратарыяту, выбараў, бюджэтаў, даходаў...

Пачалася крышталізавацца кніжка «Piękni ludzie — poeci mojej emigracji». Яе героямі з'яўляюцца людзі, якія спадарожнічалі ім у паэтычных вандроўках. Некаторыя нікому невядомыя. Сутнасць была ў тым, што падзялялі з імі веру ў тое, што паэзія з'яўляецца каштоўнасцю. Было заданне — стварыць легенды. А «ПаЭзія Лондан»? Рабілі тое, што вызначылі раней: пісалі артыкулы, высылалі вершы, праводзілі сустрэчы, арганізавалі паэтычныя вечарыны, чыталі вершы, прымалі ўдзел у паэтычных фестывалях. Знаёміліся з новымі людзьмі. У 2013 г. сарганізавалі чарговы Сусветны дзень паэзіі ЮНЕСКА Прыгожыя людзі. «Свабода» — гэта іх імператыў.

— Бываем самотнымі, але мы не адны, — кажа Адам Сяменчык. — Пашыраем нашу мяжу і шмат якіх вызначэнняў. Мы ёсць.

У 2013 годзе, апрача сцэнічных выступленняў, мелі таксама сустрэчы ў Лонданскім універсітэце (Еўрапейскія паэтычныя дыялогі, ініцыяваныя Аннай Марыяй Міцкевіч). На факультэце славістыкі сустрэчу вяла Уршуля Хаванец (прымалі ў іх удзел м.інш. Ганна Кандрацюк і Міра Лукша — адна з гераінь кнігі Адама «Piękni ludzie»). У гэтай кнізе апынулася побач сябе 59 паэтаў, пішучых на 11 мовах. Пачаліся пераклады кнігі на іншыя мовы.

### Сусветны Дзень паэзіі ЮНЕСКА, 21-23.03.2014 г.

разросся з аднаго сцэнічнага прадстаўлення да трохдзённага здарэння, шасці асобных імпрэз. У першы дзень вясны паказалі «Kariatydy» ў Лондане ў The Bedford у зале Tavostock (77 Bedford Hill, SW 12 9HD). Вечар складаўся з некалькіх асобных прэзентацый. Пачалося ад успамінаў пра адышоўшых літаратараў Лукаша Бялецкага, Кастуся Казлоўскага з Гарадка і Сакрата Яновіча з Крынак. Паэтэса Марта Брасарт разам з праектантам моды Эрвінам Міхальцом і групай манекеншчыц ды музыкам Яцкам Асёрам прадставіла «Карыятыды», у тлумачэнні Магды Хайноўскай — свой дэбютанцкі зборнік. Анна Марыя Міцкевіч выступіла са сцэнічнай прэзентацыяй сваёй паэзіі. З Ірландыі прыехаў Тамаш Выбраноўскі са сваімі вершамі. Спецыяльны паказ мелі Барбара Юркоўская і Аляксандр Наўроцкі, якія прыбылі на сустрэчу ў Лондан чацвёрты раз (шмат хто лічыць іх толькі рэдактарамі «Poezji dzisiaj» і арганізатарамі літаратурных фестываляў). Іхнія вершы прачыталі Адам Сяменчык і Марта Брасарт пад акампанемент Луізы Станец. Разалія Аляксандрава з Балгарыі запрэзентавала тэорыю квантавай паэзіі. У суботу праводзіліся сустрэчы ў школах — у Школе айчынных прадметаў імя Галены Маджаеўскай і Школьным кансультацыйным пункце імя Польскіх лётчыкаў, дзе выступілі паэты і прагучала фартэпіянная музыка ў выкананні Мацея Дамброўскага. Анна Марыя Міцкевіч зноў сарганізавала разам з «Poets Anonymus» «абмен паэтычнай думкай» у рамках Еўрапейскіх паэтычных дыялогаў. А ўвечары «ПаЭзія Лондан» запрасіла на «зялёны дыван», дзе паэты чыталі свае вершы ў нефармальным выданні «ПаЭзіі Лондан», смакавалі ласункі сілезскай кухні і вырабы Міраславы і Яўгена Сяменчыкаў з Гарадка, абменьваліся сваімі «паэтычнымі ліцэнзіямі». Паглядзелі прэм'еру фільма на падставе кнігі «Прыгожыя людзі», апісваючага постаць Роберта Шырынга з Гарадка ў рэжысуры Кордыяна Міхальскага. Нядзеля пачалася ад экскурсіі па Лондане, якую вяла Аліна Табіш ёй вядомымі сцежкамі. А дзевятнаццатай гадзіне пачалося галоўнае сцэнічнае выступленне. Зноў свае шырокія дзверы адчыніў «Jazz Cafe Club» у Польскім грамадска-культурным таварыстве, што на Гамерсміс. Кожны з запрошаных паэтаў прэзентаваў свае вершы, музычныя сольныя канцэрты прадставілі Моніка Лідке, Франка ДэМіль, Сабіё Яняк з Марынай Авецыян, Яцак Асёр з Барбарай Барц і Люіза Станец. Першы раз завяршыўся конкурс, які выбраў Чэмпіёна свету ў ПаЭзіі. Сёлета стварыўся памост паміж польскай і англійскай мовамі, адсюль сярод больш сарака паэтаў такі быў значны ўдзел англійскіх паэтаў з розных асяроддзяў.

— Мы расказалі свае паэтычныя гісторыі, — кажа Адам Сяменчык. — Сусветныя дні паэзіі якраз для таго, каб спаткаць паэтам. Ствараюць яны своеасаблівую прастору, дзе паэт можа адчуць сябе важным.

Сярод медыйных прамотараў фэсту — англа-польскіх часопісаў, «Poezji dzisiaj» і Саюза польскіх пісьменікаў былі Клуб гуманістаў з Універсітэта ў Беластоку, Гмінны цэнтр культуры ў Гарадку і «Ніва».

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

## Гмінныя задачы

Кляшчэлеўскі самаўрад ад некалькіх год ладзіць належнае супрацоўніцтва з жыхарамі па выкарыстанні вясковага фонду. Вось якія задачы для выканання ў гміне ў гэтым годзе прад'явілі сяляне паасобных салэцтваў:

— Белая Страж — закупка і ўстаноўка драўлянай замыканай вітрыны для аб'яў, закупка і ўстаноўка ўказальнікаў з назвай вёскі, падсыпка і выраўноўванне гміннай гравійкі № 109165Б; кошт задачы — 6 045,24 зл;

— Дашы — выраўноўванне даязных дарог да ўчасткаў № 30, 70, 936 і 941; кошт — 11 850,80 зл.;

— Дабрывада — закупка матэрыялаў для выканання паветкі на прыпынку, закупка сеткі і слупкаў для агароджы пляцоўкі вакол вясковай святліцы, перабудова даху гаспадарчага будынка пры вясковай святліцы (закупка неабходных будаўнічых матэрыялаў); кошт — 11 770,91 зл;

— Грузка — выраўноўванне даязной дарогі да ўчастка № 42; кошт — 6 684,44 зл.

— Курашава — закупка і выкананне з польбруку пад'ездаў да гаспадарскіх сядзіб; кошт — 6 657,75 зл;

— Пятроўшчына — выкананне гміннай дарогі Пятроўшчына — Малочкі; кошт — 6 045, 24 зл;

— Паграбы — выраўноўванне гміннай дарогі № 109147Б Паграбы — Жукі; кошт — 7 350,16 зл;

— Палічна — закупка абсталявання для вясковай святліцы — 9 сталоў і 36 крэслаў; кошт 9 480,64 зл;

— Рэпчыцы — рамонт дарогі ў вёсцы; кошт — 6 524,60 зл;

— Сакі — распрацоўка тэхнічнай дакументацыі для рамонту вясковай святліцы, закупка абсталявання для святліцы (сталоў і крэслаў); кошт — 8 814,86 зл;

— Сухавольцы — закупка абсталявання для святліцы — унутраных дзвярэй, халадзільніка, крэслаў, абрусаў, кляёнкі, пасуды, фарбы, настольнай футбольнай гульні ды газонакасілкі; кошт — 8 814,86 зл;

— Тапаркі — выраўноўванне гміннай дарогі № 1042; кошт — 8 228,98 зл;

— Залешаны — выраўноўванне гміннай дарогі № 218/2; кошт — 6 924,06 зл;

— Жукі — выраўноўванне гміннай дарогі № 175; кошт — 6 551,23 зл.

Ці гміна справіцца з выкананнем задач да самаўрадавых выбараў, пакажа час. Ацэнку кандыдатам дадуць выбаршчыкі восенню ў час галасавання.

Уладзімір СІДАРУК

## Варта купіць „Ніву”

У Гайнаўцы наш беларускі штотыднёвік можна купіць у прыгожых кіёсках „Рух” па вуліцы 3 Мая і па вуліцы Пілсудскага ды на пошце па вуліцы Зіна. Трынаццаты нумар „Нівы” ад 30 сакавіка ў аўторак 1 красавіка г. г. па адным экземпляры купіў я сваім суседзям навалаўкоўцам на пошце і ў кіёску па вуліцы 3 Мая (тут быў у продажы яшчэ адзін экземпляр). У кіёску па вуліцы Пілсудскага пару экземпляраў „Нівы” ўжо прадалі.

У той сам дзень купіў я „Ніву” на пошце ў Нараўцы і асталіся яшчэ два экземпляры. Як паінфармавалі мяне, на пошту прыходзіць 4 а то і 6 экземпляраў. У краме ГС (яна каля помніка) у Нараўцы я таксама купіў „Ніву” ды асталіся яшчэ два экземпляры. У Ляўкове я маю пакупнікоў на „Ніву”. Раней трэба было іх пашукаць ды заахвоціць.

„Нівай” я найперш зацікавіў вядомыя мне асобы. Расказаў ім аб чым зараз пішуць журналісты і карэспандэнты. Варта купіць чарговы — 14 нумар „Нівы” ад 6 красавіка г. г. і наступныя.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі

# Прагучала „Роднае слова”

Нашы дзеткі любяць дэкламаваць па-беларуску і ахвотна прымаюць удзел у Дэкламатарскім конкурсе «Роднае слова». Спачатку вучні спаборнічаюць у сваіх школах, а пасля лепшыя дэкламатары прымаюць удзел у раённых адборах. 2 красавіка падчас цэнтральных элімінацый конкурсу «Роднае слова» ў Бельскім доме культуры выступілі самыя лепшыя дэкламатары. Дашкольнікі захапілі публіку адвагай і шчырай дэкламацыяй на роднай мове, а многія вучні паказалі акцёрскія здольнасці. Перад выступамі хваляваліся наймалодшыя і старэйшыя. Многія дэкламатары патрапілі перараадолець хваляванне і выступілі так адважна, як падчас рэпетыцый перад сваімі настаўнікамі.

— Я не адчуваю хвалявання перад публікай. Нават лепш мне дэкламаваць, калі слухае мяне больш людзей, бо гэта мяне яшчэ больш падбадзёрвае, — сказаў Барташ Яканюк з Гайнаўкі.

З наймалодшымі дзеткамі прыехалі бацькі. Ім цікава было паглядзець выступленні сваіх дзетак. Дома многа разоў слухалі яны, як іх дачушка або сын гаварылі вершыкі па-беларуску, выпраўлялі памылкі.

— Нам асабліва лёгка было дэкламаваць у Бельскім доме культуры. Добра, што не гаворым са сцэны, толькі выступаем непасрэдна перад публікай, бо вельмі важны блізкі кантакт са слухачамі, — сказалі Аляксандра Буслоўская і Дар'я Місяюк з Гайнаўкі. — Разлічваем на добрае месца, але сёння асабліва высокі ўзровень дэкламацыі.

У размове са мной наймалодшыя вучні хацелі сказаць нешта па-беларуску, а старэйшыя стараліся выказвацца поўнымі сказамі на беларускай мове. Малгажата Галёнка з Непублічнай падставовай школы ў Арэшкаве пахвалілася, што ўмее гаварыць на мясцовым беларускім дыялекце.

— Гэта бацька стаў вучыць мяне гаварыць так, як у нас размаўляюць, а дэкламаваць я пачала з прадшколля. Вельмі люблю дэкламаваць. Займала я прызавыя месцы ў конкурсе «Роднае слова», заняла першае месца ў конкурсе расказчыкаў «Беларуская гавэнда», — расказала мне на беларускай літаратурнай мове і на гаворцы Малгажата Галёнка з Пасечнікаў, лаўрэатка першага месца.




*Аляксандра Салавянюк з Кірыла-Мяфодзіеўскай школы ў Беластоку*




*Малгажата Кубай з бельскай «тройкі»*



*Крыстыян Паскробка са школы ў Нарве*



*Малгажата Галёнка са школы ў Арэшкаве*



*Максім Фіёнік з бельскай «тройкі»*

На літаратурнай беларускай мове размаўляла Аляксандра Петкаў з бельскай «тройкі».

— Я люблю вучыцца і дэкламаваць па-беларуску. Бацька вучыць мяне размаўляць па-балгарску і так я стараюся гаварыць, калі наведваю бабулю ў Балгарыі. З сяброўкамі размаўляю на польскай мове, — сказала Аляксандра Петкаў, лаўрэатка прадметных конкурсаў па беларускай і польскай мовах.

Найбольш дэкламатараў рэпрэзентавала Комплекс школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім. Паказалі яны высокі ўзровень дэкламацыі. З цікавым рэпертуарам і ўдала выступілі таксама вучні многіх іншых школ. Настаўнікі беларускай мовы лічаць, што выступленні дзетак з беларускімі творамі ў вялікай грамадзе падбадзёрваюць іх да лепшай вучобы на ўроках беларускай мовы.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Развітальная, незабыўная пастаноўка

Гэтых маладых „не дагнаць, не спыніць, не разбіць” — сказала пра сваіх гадунцоў і маладых сяброў настаўніца Аліна Ваўранюк. 26 сакавіка г.г., яшчэ ў святочнай атмасферы Дня Волі, беластоцкія ліцэісты сыгралі 37 раз спектакль „Ой даўно, даўно”. Выступленне ў Тэатральнай акадэміі мела развітальны характар. Большасць маладых акцёраў-аматараў канчае вучобу ў сярэдніх школах і паедзе штудзіраваць у розныя гарады Польшчы.

Спектакль „Ой даўно, даўно” пабудаваны на сапраўдных сямейных расказах старажылаў ды этнічных песнях жыхароў нашых вёсак. Яго каштоўнасць яшчэ і ў разнавіднасці дыялектаў. Тут можам пачуць арлянскія, даўгабродскія, рэпіскія, галадоўскія, тыневіцкія, чыжоўскія, пасынскія варыянты падляшскіх гаворак. Спектакль, пра што мы пісалі ўжо дзесяткі разоў на старонках „Зоркі”, меў надзвычай вялікі поспех і доўгае жыццё. Яго паказвалі на працягу чатырох гадоў у малых вёсках ды вялікіх метраполіях, у тым ліку і ў Нью-Йорку.

Памяць пра спектакль і яго герояў набыла свой трывалы працяг у новай кнізе пад аднайменным загалоўкам. У ёй надрукаваныя гісторыі з папярэдняга выдання, папоўненыя новымі расказамі і здымкамі. Кніжку афарміў таленавіты Юрка Асеннік. Выданне эксклюзіўнае, таму апрача сямейнай памяткі яно зацікавіць кнігалюбаў.

**ЗОРКА**

**Фота ГАННЫ КАНДРАЦЮК**









## Вершы Віктара Шведа

### Першы фотаапарат

У шпіталі родзіць матка
Зноў сыночка акурат.
Фотаапаратам матка
Робіць пільна здымкаў шмат.

Акушэрка Вераніка
Запытала: — Дзетак брак?
— Дзіця трэціе па ліку,
Першы — фотаапарат.

### Найлепшая курка

Настаўнік на занятках
Запытаў Уладка:
— Які звярок сапраўды
Больш надаецца да яды?

— Гэта хіба будзе курка,
Адазваўся малы Юрка.
Ад нараджэння, па сканчэнне,
Дае яна нам харчаванне.

## Увага, конкурс!!! (№ 15-14)

### Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 23 красавіка, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**1.**
Кніг ніколі не чытала,
Алфавіт не ведае.
А чаму тады назвалі
Людзі к........ яе?

**2.**
Што за цуд за такі:
Па ўсім полі — светлякі,
А найбольшы святляк
Перагнуўся, як чарвяк?
(З.... і М....)

Адказ на загадкі № 12: мурашкі, праляска, сон-трава.
Узнагароду, CD з беларускай музыкай, выйграла **Альжбета Харкевіч** з Нараўкі. Віншуем!

Узнагароды за адказ на крыжаванку № 10: **аўтаручкі**, выйгралі **Кацярына Лаўрашук** з Бельска-Падляшскага, **Оля Пугацэвіч** з Беластока, **Інэз Дмітрук** з Орлі, **Магдалена Мішчук**, **Наталля Ніканюк**, **Малгажата Галёнка** з Арэшкава, **Рафал Новік**, **Альжбета Харкевіч**, **Барташ Лашкевіч**, **Паўліна Лаўнічук** з Нараўкі. Віншуем!

## Польска-беларуская крыжаванка № 15




Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 11:**

Сок, Ярыла, назва, Познань, вясна, хор, акт, яно, цырк, равун, пан, асоба, таз, нырка. Сем, воцат, пярына, нос, азнака, знак, два, трон, рана, абы, явар, но, абалонка.

Узнагароды, дэкор-стыкерсы, выйгралі **Наталля Марчук**, **Крыся Леўша**, **Ірэна Анішчук**, **Патрыцыя Лаўнічук** з Нараўкі, **Кацярына Лаўрашук** з Бельска-Падляшскага, **Оля Пугацэвіч** з Беластока. Віншуем!




# НАШ НАВУКОВЫ ШТОГОДНІК

Часопіс „Białorutenistyka Białostocka" выдаецца Кафедрай беларускай філалогіі Філалагічнага факультэта Універсітэта ў Беластоку. Нядаўна пабачыў свет ужо пяты нумар гэтага навуковатэарэтычнага штогодніка, прысвечанага даследаванням над беларускай літаратурай, мовай, культурай і гісторыяй. У 2001-2008 гадах беларусазнаўчыя матэрыялы шырока прадстаўляліся ў часопісе Інстытута ўсходнеславянскай філалогіі „Studia Wschodniosłowiańskie", што ў пэўнай ступені адпавядала патрэбам нашай беларусістыкі. Аднак і з досыць абмежаванай часавай перспектывы ўжо відавочна, што ўзнікненне штогодніка „Białorutenistyka Białostocka" сталася вельмі своечасовым фактам. Беластоцкае беларусазнаўства набыло свой навуковы штогоднік, гасцінна адкрыты для беларусістаў Польшчы, Беларусі, Аўстрыі і ўвогуле для ўсіх тых, хто займаецца беларусазнаўчай філалогіяй, гуманістыкай. Не будзе перабольшаннем сказаць, што „Białorutenistyka Białostocka" годна прэзентуе беластоцкае беларусазнаўства па-за межамі Польшчы. Сведчаннем чаго, напрыклад, тое, што ўжо на выхад трэцяга тома нашага штогодніка прыйшоў водгук з Дзяржаўнай бібліятэкі ў Берліне, у якім было выказана жаданне мець у бібліятэчных зборах усе папярэднія і наступныя нумары часопіса.

Грунтоўны, аб'ёмны (538 стар., 31 артыкул, 7 рэцэнзій) пяты нумар часопіса „Białorutenistyka Białostocka" (2013) выйшаў з прысвячэннем 55-гадоваму юбілею Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа". І цалкам невыпадкова, што ён адкрываецца артыкулам „Ачышчальная сіла купальскага агню і белай вязі (штрыхі да творчага партрэта Георгія Валкавыцкага)". Вядомая беларуская даследчыца з Гомеля Вольга Шынкарэнка здаўна цікавіцца „белавежскім" літаратурным абшарам і гэта не першы яе зварот да асэнсавання творчасці вялікага заснавальніка „Белавежы". Памятаецца, як неяк на адным з „белавежскіх" семінараў сам Г. Валкавыцкі выказаўся, што, менавіта В. Шынкарэнка найглыбей, чым хто з даследчыкаў, асэнсавала, прааналізавала яго творы. І вось, на жаль, з'явілася падстава для асэнсавання ўжо ўсёй творчай спадчыны аўтара „Віроў", „Белай вязі". Сустрэўшы дзевяностагадовы юбілей, Г. Валкавыцкі асіраціў сваю сям'ю і „белавежскую", „ніўскую" сябрыну ды сышоў на вечны спачын у сваю родную Белавежу...

„Белавежская" тэматыка прадстаўлена ў штогодніку „Białorutenistyka Białostocka" таксама артыкуламі Галіны Тычкі з Мінска, Бэаты Сівэк з Любліна, Сняжаны Асобінай з Гародні і іншых. Г. Тычка неаднойчы прымала непасрэдны ўдзел у „белавежскіх" семінарах, нават рэдагавала кнігі Сакрата Яновіча і Міры Лукшы, выступала з артыкуламі ў Польшчы і Беларусі. Гэтым разам у артыкуле „Аўтарская канцэпцыя чалавека і свету ў мініяцюрах Сакрата Яновіча і Яна Чыквіна" даследчыца засяродзілася на малой прозе двух „белавежцаў". Б. Сівэк у артыкуле „W świetlistości wszechprzenikającej, czyli Symbolika światła i słońca w poezji Białowieżan" пад акрэсленым кутом погляду звяртаецца да паэзіі Надзеі Артымовіч, Алеся Барскага і Яна Чыквіна. У працэсе аналізу яна прыходзіць да высновы, што сонечна-светлая сімволіка ў творчасці „белавежцаў" амаль заўсёды звязана з тым, што духоўнае і боскае. Варта нагадаць, што Б. Сівэк з'яўляецца адной з вядучых даследчыц беларускай літаратуры Польшчы. Ужо ў 2004 годзе ў выдавецтве Каталіцкага Люблінскага ўніверсітэта кнігай пабачыла свет яе пранікліве доктарскае даследаванне „Ojczyzna duża i mała. Poeci Białoruskiego Stowarzyszenia Literackiego „Białowieża" wobec problematyki ojczyźnianej". Мовазнаўца С. Асобіна ў артыкуле „Моўныя асаблівасці аповесці Міхася Андрасюка «Белы конь»" на прыкладзе аднаго твора ўважліва прааналізавала моўную палітру выдатнага „белавежскага" паэта і празаіка.

Па-свойму далучаюцца да „белавежскай" тэматыкі і артыкулы, у якіх аналізуецца творчасць Ніны Мацяш (1943-2008), народжанай на Берасцейшчыне, цесна звязанай сяброўствам з „белавежцамі". Ёй, чалавеку надзвычай складанага лёсу, вялікаму таленту, летась споўнілася б семдзесят гадоў. У артыкулах берасцейцаў Валянціна Смаля „Паэтычна-экзістэнцыйны свет Ніны Мацяш" і Зоі Мельнікавай „Пераадоленне: ідэі экзістэнцыйна-філасофскага самасцвярджэння ў паэзіі Ніны Мацяш" усебакова разгледжаны этапы творчай эвалюцыі паэтэсы згодна з аўтабіяграфічнымі, сацыякультурнымі, экзістэнцыяльнымі аспектамі.

Можна сказаць, што ў пятым томе штогодніка „Białorutenistyka Białostocka", што, урэшце, уласціва і для ранейшых нумароў, своеасабліва прадстаўлены вузлавыя моманты беларускай літаратуры. Пачынаючы ад старажытнага „Слова пра паход Ігараў" (Людміла Зарэмба, Мінск), ад разгляду месца літвінскага мітрапаліта Рыгора Цамблака ў полацкім летапісе а. Ігнацiя Сцябельскага XVIII стагоддзя (Юрый Лабынцаў, Ларыса Шчавінская, Масква), ад аналізу беларускай інсітнай літаратуры XIX — пачатку XX стагоддзя (Лія Кісялёва, Мінск), некаторых аспектаў творчасці Францішка Багушэвіча (Ірэна Рудзевіч, Ольштын) — да важкай „нашаніўскай" пары і далей — да актыўна перагляданых у цяперашнюю эпоху 20-30-х гадоў прамінулага стагоддзя. Надзея Чукічова (Гародня) выступае з артыкулам „Марфалогія сюжэтнай інтрыгі ў прозе Вацлава Ластоўскага", Алесь Макарэвіч (Магілёў) — „Сацыяльныя прадказанні ці канстатацыя фактаў рэчаіснасці? (Беларуская проза 20-30-х гадоў)", Віталь Падстаўленка (Віцебск) — „Камічна-псіхалагічны сінтэз у беларускіх апавядальных гісторыях 1920-х гадоў", Вольга Губская (Мінск) — „Раман Максіма Гарэцкага «Віленскія камунары» — новае прачытанне", Ірына Часнок (Мінск) „Унутраная падзейнасць у рамане «Сястра» Кузьмы Чорнага". Вопытны даследчык Людміла Сінькова (Мінск) у артыкуле „Праблемы актуалізацыі беларускай традыцыі ў сусветным літаратурным кантэксце", можна сказаць, глядзіць на беларускую літаратуру з вышыні птушынага палёту, пераканаўча пацвярджаючы свае высновы канкрэтыкай. Святлана Калядка (Мінск) дзеліцца вопытам, вынесеным з падрыхтоўкі „Збору твораў" Максіма Танка ў 13 тамах, а яе калега Тацццяна Барысюк у артыкуле „Мая Танкіяна" распавядае пра свае ўрокі з працы над заключным томам гэтага важкага „Збору твораў".

Зразумела, было б несправядліва не згадаць публікацый супрацоўнікаў Кафедры беларускай філалогіі. Так, Анна Саковіч выступае з артыкулам „Праблема канфлікту паміж пакаленнямі: вясковыя бацькі і іх „гарадскія дзеці" (раман „Карані" Аляксея Карпюка)", Анна Альшэўнюк — з артыкулам „Жанрава-стылявыя асаблівасці аповесці Янкі Брыля «Ніжнія Байдуны»". Анна Грэсь рэцэнзуе „Słownik cerkiewnosłowiańsko-polski", уласна Супрасльскі *Лексікон* 1722 года, фотатыпічнае выданне якога пабачыла свет у 2012 годзе (выдавецтва Універсітэта ў Беластоку), дзякуючы выдатнаму знаўцу царкоўнаславянскай мовы прафесар Ліліі Цітка, якая з'яўляецца і аўтарам кампетэнтнага ўступу да выдання. У сваю чаргу Аліна Філіновіч рэцэнзуе першы падручнік для навучання беларускай мове, адрасаваны студэнтам рускай філалогіі, падрыхтаваны Аннай Грэсь.

Толькі год таму на філалагічным факультэце прыгожа адсвяткавалі дваццацігоддзе беларускай філалогіі ва Універсітэце ў Беластоку, а ўжо, як ні парадаксальна, прынята рашэнне аб згортванні накірунку, бо беларуская філалогія аказваецца незапатрабаванай у цяперашнім прагматычным свеце... Ды адзін з блокаў матэрыялаў пятага нумара штогодніка „Białorutenistyka Białostocka" прысвечаны якраз прайшоўшаму юбілею і нагадвае аб той святочнасці, якая панавала на факультэце 12 красавіка 2013 года. Наш юбілей стаўся падставай і для гаворкі пра агульны стан беларускай філалогіі ў Польшчы. У прыватнасці, ёсць магчымасць пазнаёміцца з выступленнямі нашых шаноўных гасцей з Варшавы і Любліна. Прафесар Ніна Баршчэўская распавядае пра дасягненні Кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта, а прафесар Міхал Саевіч — пра беларусістыку УМКС у Любліне. З артыкулам „Katedra Filologii Białoruskiej Uniwersytetu w Białymstoku — historia i stan obecny" выступае доктар Базылі Сегень. Трэба згадаць і пра віншаванні, складзеныя Кафедры і змешчаныя ў гэтым нумары штогодніка: ад рэктара Універсітэта ў Беластоку прафесара Леанарда Этэля, пасла РБ у РП прафесара Віктара Гайсёнка, рэктара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта акадэміка Сяргея Абламейкі, старшыні ГП БГКТ Яна Сычэўскага, дырэкцыі, настаўнікаў і вучняў Белгімназіі і Белліцэя ў Гайнаўцы, дырэкцыі, настаўнікаў і вучняў гімназіі імя Ярослава Касцыцэвіча ў Бельску-Падляшскім. Аддавалася на святкаванні належнае калектыву Кафедры і выказваліся надзеі на развіццё беларускай філалогіі менавіта тут, у Беластоку, дзе яна асабліва патрэбная для беларускага насельніцтва дзеля захавання сваёй культуры, ужо на самым высокім яе ўзроўні.

І вось маем сур'ёзныя цяжкасці, праблемы. Аднак спадзяёмся, што беларуская філалогія ў Беластоку, падтрыманая ўсімі беларускімі арганізацыямі на Падляшшы, а таксама адпаведнымі дзяржаўнымі структурамі, будзе развівацца далей, запатрабаваная грамадскім жыццём на нашым польска-беларускім памежжы. Аб нашым жа навуковым патэнцыяле сведчыць і чарговы нумар штогодніка „Białorutenistyka Białostocka".

**Галіна ТВАРАНОВІЧ**

# Дзень Волі ў Трыгарадзе

25 сакавіка, традыцыйна, як штогод, беларусы Трыгарада 96-я ўгодкі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі адзначылі ўскладаннем вянкоў на магілах заслужаных для беларускай справы дзеячаў Лукаша Дзекуць-Малея і Кузьмы Чурылы. Ад сям'і Лукаша Дзекуць-Малея, ад Беларускага культурнага таварыства „Хатка", ад беларускіх жыхароў Трыгарада, ад беларускіх студэнтаў, якія вучацца па праграме Каліноўскага на Гданьскім універсітэце і іншых вучэльнях Трыгарада. Фрагменты Евангелля ад св. Яна чыталі Роберт Мікша па-польску і Лена Глагоўская па-беларуску.

Прадаўжэннем святкавання ўгодкаў была сустрэча пры помніку Янку Купалу ў Гданьску дзе старшыня БКТ „Хатка" Лена Глагоўская прачытала верш Янкі Купалы «Нашай Ніве», актуальны і зараз. Пры нагодзе, нейкія вандалы вырываюць дрэўцы — садзім іх штогод каля помніка, а і сам падмурак, на якім стаіць камень, нехта пашкодзіў.





Потым члены БКТ «Хатка» і беларускія студэнты сустрэліся ў клубе «Хаткі» ў Сопаце па вуліцы 3 Мая. Сустрэча пачалася адспяваннем гімнаў «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» і «Магутны Божа». Сустрэчу вяла Лена Глагоўская. Прыпомніла яна гістарычныя ўмовы абвяшчэння БНР і прачытала віншаванні ад Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» з нагоды 96-х угодкаў БНР.

Святкаванне 96-х угодкаў супала з прамоцыяй кніжкі «У беларускасці наш паратунак. Мікола Гайдук (1931-1998) — асоба і справа» пад рэдакцыяй Лены Глагоўскай. Фактычна, як сказала Лена, Мікола Гайдук гэта не толькі асоба, але і справа беларускай культуры, пачынаючы ад падручнікаў для школьнікаў (між іншым «Беларуская мова — граматыка для V-VIII класаў» ці «У дружнай сям'і») па вялікі зборнік «Песні Беласточчыны».

*Без такіх людзей*
*Мы жылі б, як дзіч,*
*Гнулі б з пакорай спіну*
*На панскі свістучы біч.*
*Хто б ведаў (з нас)*
*Як пісаць?*

(Мікалай Панфілюк, *Мікалай Гайдук і іншыя*)

Сябры воклічам «Жыве Беларусь!» развіталіся да наступнай сустрэчы.

**Тэкст і фота Міхася КУПТЭЛЯ**


Былая ўніяцкая царква ў Савічах

# Спадчына схізмы

Славуты „Супрасльскі кодэкс”, твор раннеславянскага пісьменства, атрымаў сваю назву дзякуючы яго часоваму месцу прабывання ў нашай супрасльскай бібліятэцы. Даследчыкі мяркуюць, што трапіў ён сюды прынесены паўднёваславянскімі бежанцамі, якія ўцякалі ў талерантнае Вялікае Княства Літоўскае перад новымі заваёўнікамі Балканскага паўвострава. Аднак, так мне здаецца, не толькі той каштоўнейшы рукапіс уцякаў да нас перад туркамі...

Паміж Сакаловам-Падляшскім і Драгічынам знаходзіцца мясцовасць Савічы. Яе назва падказвае, што маглі ў ёй пасяліцца вывадцы ад нейкага Савы — магчымага сербскага ўцекача перад турэцкім нашэсцем. Першыя захаваныя згадкі пра мясцовасць паходзяць з першай паловы XV стагоддзя, значыць з’явіліся яны пару дзесяткаў гадоў пасля бітвы на Косавым Полі...

Хаця дакументы пра прыналежнасць жыхароў Савіч да візантыйскага абраду паходзяць са згаданага вышэй часу, то першыя весткі пра тамашнюю драўляную праваслаўную царкву датуюцца стагоддзем пазней. Была гэта царква прысвечаная святому Юрыю, якога ікона, паводле тамашняй легенды, паявілася на дрэве. Крыху пазней Савіцкі прыход прыняў пастанову Берасцейскай уніі. У 1630-х гадах настаяцелем Савіцкага прыхода быў Іван Вярбіцкі...

Чарговая драўляная царква ў Савічах была ўзведзена ў 1738 годзе па ініцыятыве сям’і Цецішэўскіх: ліўскага (Ліў каля Венграва) пісара Яцка Цецішэўскага і ягонай жонкі Францішкі з Язерскіх ды віскага (Візна каля Ломжы) лоўчага Тэафіля Касакоўскага і ягонай жонкі Агнешкі з Цецішэўскіх. У 1815 годзе мельніцкі староста Адам Шыдлоўскі з жонкай Вікторыяй з Кучынскіх пачынаюць грунтоўны рамонт савіцкай царквы, а завяршае яго ў 1828 годзе іхні сын Тэадор, ад’ютант князя Юзафа Панятоўскага.

У 1875 годзе савіцкая царква пераходзіць у праваслаўе, а ў 1919 — у каталіцтва, у 1934 тут устаноўлена філя парафіі Выразэмбы, а ў 1990 годзе самастойная парафія.

Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага згадвае пра Савічы па-свойму: „Sawice Ruskie, wieś i folwark, pow. sokołowski, gm. i par. Wyrozęby, posiada cerkiew paraf. drewnianą, erekcyi niewiadomej. W 1728 r. na nowo zbudowana. W 1815 r. wybudował nową Szydłowski, dziedzic wsi”.

Згаданыя парафіяльныя Выразэмбы гэта суседняя з Савічамі мясцовасць. Слоўнік з 1895 года: „Kościół p. w. św. Trójcy i parafię założyli tu w r. 1438 dziedzice wsi Wyrożębscy. W r. 1700 wzniósł nowy kościół z drzewa Franciszek Korybut Wiśniowiecki. Obecny z muru zbudował r. 1858 dziedzic dóbr Repki Tadeusz Dernałowicz. Jemu też zapewne zawdzięcza wieś fundacyą szpitala przy którym znajduje się stały lekarz”. Мураваны касцёл быў асвячаны ў 1865 годзе, а 8 студзеня 1843 года, яшчэ ў старым драўляным касцёле быў ахрышчаны Стэфан Звяровіч...

Стэфан Звяровіч у 1897 годзе прымае сан віленскага біскупа. Вось як пра яго пісаў у Касцельнай энцыклапедыі ксёндз, зараз благаславёны, Міхал Сапоцька: „Nauki początkowe pobierał w Drohiczynie, potem wstąpił do gimnazjum w Białymstoku, a po jego ukończeniu do rz.-kat. Seminarium Duchownego w Wilnie (1861 r.); tamże otrzymał święcenia kapłańskie w r. 1867. W r. 1897 prekanonizowany na bpa wileńskiego, przyjmując sakrę w Petersburgu (16. XI. 1897 r.). Rozległa diecezja wileńska, obejmująca dwie ówczesne gubernje (wileńską i grodzieńską) była przedmiotem szczególniejszych ataków ze strony rosyjskiego rządu, a duchowieństwa prawosławnego w szczególności. W tym celu cały kraj pokryto siecią parafjalno-wyznaniowych szkół prawosławnych, zależnych i kierowanych nie przez Ministerstwo Oświaty, lecz przez prawosławne duchowieństwo, które wciągało do nich postrachem, groźbami i przemocą nietylko dzieci rodziców, zapisanych przemocą na prawosławie, lecz i rzymsko-katolickiego wyznania. Praktykę szkół cerkiewnych zaczęto stosować i w szkołach ludowych, gdzie na mocy tajnego rozporządzenia Min. Ośw. zmuszano katolickie dzieci do uczęszczania w niedziele i dni świąteczne do cerkwi na nabożeństwo, do odmawiania w szkole modlitw prawosławnych, do śpiewania cerkiewnych hymnów i uczenia się religji z podręczników, tchnących heretyckiemi i schyzmatyckiemi zasadami. Taki stan rzeczy podkopywał wiarę katolicką w samym jej rdzeniu i mógł spowodować powolny jej zanik nietylko u dzieci byłych unitów, ale i rzymsko-katolickiego wyznania. Bp Zwierowicz od początku swoich rządów rozpoczął tedy energiczną walkę o duszę ludu, a szczególniej o duszę katolickiej młodzieży. Już w pierwszym roku rozpoczął wizytacje najbardziej zagrożonych powiatów oszmiańskiego i wilejskiego, a w następnych zwizytował powiat grodzieński, święciański, dziśnieński, brzeski, bielski i białostocki, budząc wszędzie wielki entuzjazm i ducha religijnego. Garnęli się do niego nietylko katolicy, ale i zapisani na prawosławie. Aby w jakikolwiek sposób osłabić wpływ wizytacji pasterskiej, zabroniono udziału w niej księżom (z wyjątkiem sześciu najbliżej mieszkających), niszczono bramy triumfalne, rozpędzano przemocą ludność i t.p. Mimo tych przeszkód, wizytacji biskup nie przerwał, ale szczęśliwie doprowadził do końca. Szczytem działalności bpa Zwierowicza było wydanie listu pasterskiego w sprawie uczęszczania dzieci katolickich do parafjalnych szkół cerkiewnych (cerkowno-prychodskija uczyliszcza i szkoły gramoty). Okazał się tu nieustraszonym bohaterem, apostolskim mężem, kochającym ojcem, a przedewszystkiem dobrym pasterzem, który duszę własną daje za owce swoje. Dnia 12 lutego 1902 roku podpisał okólnik, kończąc następującem rozporządzeniem: «Biorąc pod uwagę, że szkoły cerkiewne, znajdujące się w wyłącznej zależności od duchowieństwa prawosławnego, mają bezsprzecznie szkodliwy wpływ na podrastające młode pokolenie katolickie, surowo polecamy całemu duchowieństwu diec. wileńskiej pilnie przestrzegać, by katolickie dzieci nie uczęszczały do szkół pomienionych. W razie skonstatowania wypadków przeciwnych, jeżeli upomnienia i pouczenia nie odniosą skutku, rozkazujemy nie udzielać rozgrzeszenia na spowiedzi zarówno uczącej się w tych szkołach młodzieży, jak i posyłającym do nich rodzicom i opiekunom»”


Былая ўніяцкая царква ў Шкопах

За гэты цыркуляр біскуп Звяровіч быў выкліканы ў Пецярбург для ссылкі ў Цвер, аднак у выніку дамовы з Ватыканам быў ён пераведзены ў Сандомірскую дыяцэзію, дзе і памёр у 1908 годзе.

Даведнік „Bojownicy kapłani za sprawę Kościoła i Ojczyzny w latach 1861-1915” расказвае пра адну з такіх пастырскіх візітацый біскупа Звяровіча — у Крынках. Расійскія ўлады — піша даведнік — скасавалі парафіі ў Малой Берастаўіцы і Шудзялаве, а вернікаў адтуль далучылі да парафіі ў Крынках, дзе быў толькі адзін пробашч, а пасада вікарыя пуставала. Затое ў наваколлі ствараліся новыя прыходы, і ў 1901 годзе было там сем праваслаўных прыходаў: Крынкі, Малая Бераставіца, Вялікая Бераставіца, Юраўляны, Самагруд, Галынка і Шудзялава. У іх працавала некалькі дзесяткаў праваслаўнага духавенства. У такіх абставінах каталікі пачалі наведваць праваслаўныя цэрквы, да якіх было бліжэй і дзе, як тлумачылі ім праваслаўныя святары, „вера тая ж самая”. У жніўні 1900 года на трохдзённую візітацыю наведаў Крынкі біскуп Звяровіч. У крынскі касцёл звалілася процьма народу з усёй парафіі, у тым ліку і праваслаўныя. Цягам трох дзён прапаведнікі паказвалі народу небяспеку ад страты сапраўднай веры. Апусцелі праваслаўныя прыходы, — піша даведнік. Царкоўнае духавенства забіла на трывогу. Неўзабаве пачаліся рэвізіі ў праваслаўных вернікаў, забіралі ім шкаплеры, каронкі і ўсё, што магло схіляць іх да каталіцтва. Крынскі пробашч Ізідор Слычко быў сасланы ў Тамбоўскую губерню...

Не толькі казанні былі ўключаны ў праграму візітацый біскупа Звяровіча; у іх ходзе адбываліся таксама масавыя канфірмацыі (bierzmowania). У час наведвання біскупам Бельскага павета шмат вернікаў дзеля менавіта канфірмацыі перапраўлялася сюды цераз Буг з Сядлецкай губерні, у тым ліку шмат пераведзеных у праваслаўе непакорных былых уніятаў. На Бельшчыне таінства канфірмацыі прымала за дзень нават па амаль пяць тысяч вернікаў. Так жа было, напрыклад, у Заблудаве ў канцы жніўня 1898 года: „Ulice zapełnione ludem, na placu przed kościołem tłum, ledwo przejechać można. Nie dziw, iż ciekawi powłazili na dachy i na sztachety, nawet parkanu kościelnego. Staje nareszcie Ojciec wpośród dzieci, wszyscy na kolanach witają. Zaczyna się uroczysty ingres. Tłumy powstają rychło, każdy jak może tłoczy się do kościoła. Staje się ścisk, zamieszanie, szmer i okrzyki zlewają się ze strofami Te Deum i z organem. Ogromny kościół momentalnie zapełnia się po brzegi — wynoszą zemdlonych...”

У трох кіламетрах ад Выразэмбаў вёска Шкопы, у якой таксама захавалася колішняя ўніяцкая царква. Паводле захаваных дакументаў першая царква ў Шкопах была ўзведзена ў 1644 годзе сакратаром караля Уладзіслава IV Мечыславам Млечкам. З часам яна ўстарэла і ў пачатку XIX стагоддзя наспела патрэба яе ўжо не рамонту, але пабудовы новай. І тая новая царква ў Шкопах была пабудавана ў другой дэкадзе таго ж стагоддзя. Змуравана яна з цэглы на плане г.зв. ратонды — на эліптычным падмурку, з конусападобным дахам, на якім глухі барабан і чарговы невялікі конус з крыжам. Побач адметнай, бо муравай, былой царкоўкі пабудаваная ў 1880 годзе званіца з чырвонай цэглы. У палове XVIII стагоддзя святаром у Шкопах быў Гатавіцкі. Паколькі быў ён не надта вопытны ў пісанні, тады не афармляў ён метрык адразу, толькі клікаў пасля пісара з маёнтка, які такім чынам вёў сямейныя акты. Уніяцкая парафія ў Шкопах была ў 1875 годзе пераведзена ў праваслаўе, а ў палове 1919 года — у каталіцтва, як і іншыя былыя ўніяцкія прыходы на тэрыторыі былой Падляшскай дыяцэзіі...

Тэкст і фота Аляксандр ВЯРБІЦКІ

# Акно на свет


Аня Крыштаповіч і Люцына Юркевіч

Электронная інфармацыя, электронная кніжка, журнал, электронныя знаёмствы. Думай і вядзі сябе як астатнія, калі хочаш пазбегнуць сацыяльнага выключэння.

На гераічныя адступленні ад усебаковага „як у людзей" рашыліся маладыя прыхільнікі ідэй дырэктар бібліятэкі ў Крынках Люцыны Юркевіч.

Крынская бібліятэка — магічнае месца. Калісь тут вучыліся царкоўных песнапенняў і малітваў на стараславянскай мове. У пачатках XX стагоддзя слухалі беларускіх прапаведзей Лукаша Дзекуць-Малея. Магія гэтага месца заключаецца таксама ў будных падарожжах у мінулае і бесканечным трыванні цяпер. Спадарыня Люцына і яе верныя маладыя падапечныя цешацца кожнай супольна праведзенай хвілінай. Яны не займаюцца тут пошукам страчанага часу, толькі страчанага мінулага. Рупліва запісваюць крынскія легенды і звычаі, складаюць вершы, знаёмяцца з мовай продкаў і мовай мастацтва.

З гімназісткай Аняй Крыштаповіч пазнаёмілася я ў час адной з мастацкіх бібліятэчных сесій. Яна якраз працавала над завяршэннем свайго „Акна на лапіцкія Казіныя Горы", якія на паўднёвым канцы Крынак. Гісторыю паўднёвакрынскіх узгоркаў прыблізіла ёй спадарыня Люцына. З акна, намаляванага Аняй, можна ўбачыць колішні, вядомы з аповедаў, прыемны для вока і цяперашні засмечаны і хаатычны пейзаж гэтага месца. Можна таксама зазірнуць і ў будучыню, даведацца, што станецца з горкамі, калі пра іх паклапоцімся, і што з імі будзе, калі справы пойдуць цяперашнім шляхам.

Аня пачала наведваць бібліятэку, будучы яшчэ малой дзяўчынкай. Цяпер праводзіць тут амаль кожную вольную ад школьных і хатніх абавязкаў хвіліну. Як кажа, гэта яе ак-



но на свет. „Спадарыня Люцына заўсёды дапаможа, пагаворыць, прыдумае нешта цікавае", — прызнаецца гімназістка. Нядаўна ў занятках пачала ўдзельнічаць таксама яе малодшая сястра Эмілька.

Вучаніца першага класа гімназіі Вікторыя Станкевіч аднойчы адправілася сюды ў пошуках кніжкі — дапаможніка маладога мастака. Адпаведнай літаратуры ў бібліятэцы не знайшла, але атрымала ад дырэктаркі прапанову ўдзельнічаць у мастацкіх майстар-класах. Такім чынам ужо другі год развівае тут сваю мастацкую жарсць. Вікторыя марыць, каб мастацтвам займацца прафесійна, таму ў недалёкай будучыні хоча паступіць у Супрасльскі мастацкі ліцэй.

Спадарыня Люцына — выпускніца згаданага ліцэя. З прыемнасцю дзеліцца яна сваімі ведамі і вопытам з маладымі слухачамі. „Дзеткі ўдзельнічаюць у занятках па сваёй уласнай ініцыятыве, — кажа яна, — ім проста нельга адмовіць". Мастацкія майстар-класы — гэта чарговая форма бібліятэчнай дзейнасці. Наймалодшым членам „клуба мастакоў" з'яўляецца вучаніца трэцяга класа Ванэска Войшаль. Моладзь прыходзіць, каб нешта тут падгледзець, нешта дапрацаваць.

— Ёсць магчымасці стварыць нешта ў другой чым у школе форме, для прыкладу, зрабіць плакат. Тут мы настройваемся на адчуванне мастацкай кампазіцыі, колеру, але таксама акружаючай прыроды і архітэктуры. Пачыналі мы ад вывучэння тэхнік карыстання алоўкам і фарбамі. Знаёмімся таксама з тэорыяй вялікага мастацтва. Мы не абмежаваныя ніякай праграмай. Самі сабе ствараем творчыя напрамкі, маем тут поўную свабоду, — сцвярджае Люцына Юркевіч.

Спадарыня Люцына здолела прышчапіць мастацкую страсць сваім падапечным. Яна ўпэўненая, што гэта не страчаны час, які дасць плён у далейшай адукацыйнай кар'еры маладых выхаванцаў.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**


Падапечныя Люцыны Юркевіч




# http://kanstanta.net46.net

Наяўнасць у інтэрнэце ўласнага сайта дазваляе творчаму чалавеку прэзентаваць свае працы вялікаму колу людзей. Падаецца, што для мастака вельмі зручна стварыць віртуальную галерэю карцін, якую можна наведваць з цэлага свету. У сённяшніх умовах толькі лянівы чалавек, які займаецца жывапісам ці графікай, не пажадае выставіць свае творы на сайце, асабліва калі ці не галоўным ягоным прыбыткам з'яўляецца продаж уласных карцін.

Зразумела, што маладыя мастакі больш чулыя да павеваў часу, таму для іх больш натуральна стварэнне інтэрнэт-прадстаўніцтваў арыгінальных па сваёй будове і змесце. Вось, напрыклад, сайт маладога беларускага мастака з Гомеля Кастуся Прусава. Каб трапіць на яго інтэрнэт-бачыну, трэба набраць адрас **http://kanstanta.net46.net**. Перад нашымі вачыма адкрываецца стракатае выяўленне галоўнай старонкі, дзе прысутнічаюць як банэры беларускіх незалежных СМІ, так і фотаздымкі-партрэты вядомых беларусаў — нашых сучаснікаў. Адразу на галоўнай старонцы падаецца напрамкі творчасці мастака Прусава — гэта мастацкі роспіс сцен, аб'ёмны роспіс, дызайн інтэр'ераў і дызайн мэблі, а ў дадатак тэлефон, па якім можна з ім звязацца.

Але галоўнае, на чым засяроджваецца позірк, гэта карціна „Табу (забарона)", на якой намаляваны лысы чалавек з крывавай плямай на лбе і рот якога завязаны бел-чырвона-белай павязкай. Што гэтым хацеў сказаць мастак — цяжка зразумець, але адназначна не абышлося тут без сувязі з палітыкай.

Увогуле ж творчасць Кастуся Прусава адрозніваецца сваёй арыгінальнасцю. Каб у гэтым упэўніцца, трэба зазірнуць на старонкі, выйсці на якія месцяцца з левага боку выяўлення. Яны пазначаны як „Фрэскі", „Жывапіс", „Графіка", „Аб'екты", „Паштоўкі". Разам з тым варта пазнаёміцца і з аўтарскім расповедам аб іх, што знаходзіцца ў аўтабіяграфічнай нататцы пад фотаздымкам Прусава. „Сюжэты карцін разнастайныя. У графічных серыях пераважаюць сімвалічныя, гратэскныя вобразы. Работы выкананы ў розных тэхніках жывапісу і графікі, разнастайныя па жанрах. Творы знаходзяцца ў Брытаніі, Італіі, Кітаі, Нідэрландах Расіі, ЗША, Украіне, Беларусі. У прыватных калекцыях Джыны Лолабрыджыды, у Музеі рускага мастацтва ў Харбіне (КНР) і іншых", — кажа аўтар аб сваіх працах.

Яшчэ адной адметнасцю сайта Кастуся Прусава з'яўляецца ягоная чатырохмоўнасць. Акрамя беларускай, якая з'яўляецца тут галоўнай мовай, са зместам можна пазнаёміцца па-руску, па-англійску і па-нямецку. Праўда, далёка не на ўсіх рубрыках тое магчымае. Так, на старонцы „Артыкулы" цікаўны карыстальнік зможа пачытаць толькі па-руску і толькі адзін тэкст. Іншыя напросту не адкрываюцца, што ўказвае на недапрацоўку стваральніка данага інтэрнэт-прадстаўніцтва.

Па ўсім відаць, што аб найбольш важных падзеях у сваім жыцці Кастусь Прусаў хоча падзяліцца, прадэманстраваўшы фотаздымкі. Таму на старонцы „Фотагалерэя" мы ўбачым яго ў кампаніі з Джынай Лолабрыджыдай, на персанальнай выставе ў далёкаўсходнім Благавешчанску. Важным для мастака быў і праект „Арт-хата", дзіўныя ўвасабленні якога можна пабачыць на фотаздымках аднайменнай падрубрыкі.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара

Тэатр вялікага рэфарматара

# 245 гадоў з часу стварэння тэатра Тызенгаўза

Заснаванне першага гарадзенскага тэатра можна аднесці да 1769 года. Сёлета тэатральная грамадскасць мае падставы адзначыць ужо 245-я ўгодкі з часу заснавання гэтай культурнай установы.

Стары гарадзенскі тэатр у гістарычнай частцы Гарадніца (цяперашні абласны лялечны тэатр) быў створаны ў старым батанічным садзе. Рэшткі таго старога саду называюцца цяпер Паркам Жылібера. Памяшканне старога тэатра аднаўлялася некалькі разоў. Сур'ёзная рэканструкцыя адбывалася ў XIX стагоддзі, а таксама зусім нядаўна. Будынак спалучае ў сабе некалькі архітэктурных стыляў — неабарока, неарэнесанс, сучасныя матывы.

Гарадзенскі стараста Антон Тызенгаўз вельмі захапляўся музыкай і тэатрам. Ён сам меў добры слых, што ўзмацняла цікавасць да гэтай сферы. Падскарбі ВКЛ (яшчэ адзін тытул Тызенгаўза) сам граў на скрыпцы і клавікордзе і нават пісаў музыку. У 1765 годзе ён пачаў ствараць капэлу, тады ж у Каралеўцы была закуплена вялікая партыя клавішных, смычковых і духавых інструментаў. На чале капэлы стаў скрыпач Лявон Сітанскі, які быў душой культурніцкага асяродка. Тызенгаўз не шкадаваў сродкаў на запрашэнне прафесійных музыкаў.

Факт існавання капэлы і запрашэння шматлікіх артыстаў дазволілі Тызенгаўзу падумаць пра заснаванне тэатральнай школы, якая адчыніла свае дзверы ў верасні 1774 года. Так што адштурхоўвацца можна і ад гэтай даты. Абавязкі дырэктара былі ўскладзены на таго ж Сітанскага. Сярод выкладчыкаў пераважалі італьянцы, сярод якіх вылучаўся славуты харэограф таго часу Гаэтана Петынеці. Акрамя настаўнікаў-адмыслоўцаў у школе працавала і гувернантка з Францыі.

Адначасна з адкрыццём школы Тызенгаўз узяўся таксама за яшчэ адну задуму — пастаноўку оперных спектакляў. Ён вёў перапіску з Радзівіламі, сам імкнуўся закупляць партытуры вядомых сімфоній і новых твораў.

На тэатральных падмостках Гародні таго часу пераважаў заходнееўрапейскі рэпертуар, найперш італьянскія оперы ці камедыі. Тэатральныя касцюмы і дэкарацыі часта пазычаліся ў Варшаве. Часам прывозіліся нават з Парыжа. Захаваныя звесткі пра тое, што ў раёне Гарадніцы ў той час былі пастаўлены оперы „Севільскі цырульнік" Бамаршэ і „Магніфік" Грэтры, былі зроблены пастаноўкі „Балета пекараў" і „Сялянскага балета", харэографам якіх быў Петынеці.

Улетку 1780 года, калі Антона Тызенгаўза напаткаў фінансавы крах, на Гарадніцу прыйшоў занепад. Частка артыстаў раз'ехалася, браты Петынеці перабраліся ў Нясвіж. Стан безвыходнасці змусіў падскарбія да перадачы шэрагу музыкаў у прыватнаўласніцкія магнацкія аркестры. Дзейнасць школы была прыпынена. Тызенгаўз зрабіў яшчэ адну спробу аднаўлення свайго праекта і дасягнуў пры тым пэўных поспехаў. Быў падпісаны кантракт з вядомым балетмайстрам Габрыэлем Ле Ду, зноў прайшоў набор здольных вучняў у школу. Але ўрэшце школа пераехала ў Паставы — яшчэ адну мясціну рэформаў Тызенгаўза. Праект вялікага рэфарматара, рамантыка і ў значнай ступені авантурніка напоўніцу не здзейсніўся. Але ён паклаў пачатак у развіцці тэатральнай справы ў горадзе над Нёманам.

Пра сваю любімую справу Тызенгаўз думаў да апошняга. У сваім тастаманце ён перадаў каралю Станіславу Аўгусту Панятоўскаму трупу, якая складалася з 15 танцорак і 18 танцораў...

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Чаромхаўскі аповед (5)

Чаромхаўскі бізнес з рускімі квітнеў з году ў год. Кульмінацыйнага пункту дасягнуў у сямідзесятыя гады, калі на станцыі арганізавалі савецкую камендатуру ваенных сувязей. ЗКУшнікі мелі ў сваім распараджэнні службовы газік. Паліва для машыны звычайна бралі яны ў вайсковай часці ў Нязнаным Бары. Найчасцей аднак бралі бензін з эшалонаў, якія з ГДР падаваліся ў Савецкі Саюз. Тут жа побач чацвёртага пуці, дзе спыняліся вайсковыя цягнікі, змяшчаўся пограб, у якім збіралі паліва. Салдаты спускалі бензін з машын і прыносілі ў каністрах у сховішча. Трафейны бензін прадавалі чарамшанам. Гэта была крыніца без дна дарэмнага прыбытку. Апрача бензіну начальнікі эшалонаў дастаўлялі афіцэрам ЗКУ мясныя тушонкі, рознага віду рыбныя кансервы, грэцкія крупы ды спіртное. Гэтым бізнесам карысталіся і агенты. Калі начальніку цягніка спяшалася чым хутчэй перасячы мяжу, дык заходзіў у кантору перадачы польскіх агентаў і прасіў старшага змены па-за чаргою аформіць яго цягнік. Вядома, такая здзелка каштавала бутэльку гарэлкі і банку тушонкі. Працуючы агентам я такім чынам завязваў знаёмствы з прапаршчыкамі, якія суправаджалі вайсковы груз з ГДР у СССР. Варта адзначыць, што гэтыя прапаршчыкі неслі вартаўнічую службу пазменна. Праз Чаромху праязджалі яны па графіку кожныя пяць-шэсць дзён. Калі нешта спатрэбілася прывезці з ГДР або з Брэста, дык хапіла зрабіць заказ у прапаршчыка і праблема была вырашана. Ходкім таварам на базары Ружыцкага ў Варшаве была тады чорная і чырвоная ікра. За баначку гандляры плацілі 30-40 зл. За гэтыя грошы можна было купіць тры-чатыры партманэ-маргалкі. Савецкія афіцэры захапляліся сталовымі наборамі, асабліва наборамі для кавы з малюнкамі на палявічныя тэмы. За такі набор мне прывезлі дзве польскія каляровыя энцыклапедыі югаслаўскага выдавецтва. У Польшчы ў васьмідзесятыя гады гэта быў каштоўны падарунак. Запамяталася мне з таго часу такое вось здарэнне. Адзін прапаршчык, армянін па імені Эдзік, заказаўся па вушы ў нашую таксатарку. Праязджаючы праз Чаромху, зразу ж пасля афармлення службовых фармальнасцей у ЗКУ, заходзіў да сваёй любімай і не зводзіў з дзяўчыны вачэй. Неаднойчы прызнаваўся ёй у каханні, абяцаў з ёю ажаніцца. Гаварыў, што ў бацькі ён адзіны сын, маюць яны вялікі вінаграднік. Рэкамендаваў дзяўчыне паехаць у Арменію. Наша прыгажуня, а была гэта сапраўдная ружа, прымала ўсё за жарт. Эдзік не сцярпеў любоўнага паражэння. Не стаў заходзіць да нас у кантору. Ад ягоных сяброў-салдат пасля мы даведаліся, што яго выкінулі са службы. У нецвярозым стане парушыў ён правілы вайсковага статуту.

Камендатура ЗКУ да канца сямідзесятых гадоў змяшчалася ў адміністрацыйным бараку рухова-гандлёвай службы. Неаднойчы я заходзіў у кантору да загадчыка камендатуры ўчастка капітана Генадзія Казарэза. У нас наладзіліся сяброўскія кантакты. Памятаю будні нашага знаёмства. А пачыналася яно так...

*(працяг будзе)*

**Уладзімір СІДАРУК**






# Актыўныя
## настаўнікі-пенсіянеры

Настаўнікі-пенсіянеры Гайнаўскага павета згуртаваліся ў секцыі пры аддзеле Саюза польскіх настаўнікаў у Гайнаўцы. Чатыры гады таму налічвала яна 70 педагогаў, а зараз на дзесяць менш.

27 сакавіка гэтага года ў Доме настаўніка ў Гайнаўцы адбыўся справаздачна-выбарны сход. Са змястоўнай справаздачай выступіла старшыня секцыі настаўнікаў-пенсіянераў Ірэна Юрчук. Настаўнікі пасля выхаду на пенсію маюць шмат свабоднага часу для сваёй сям'і і для сябе асабіста. Некаторыя ад ранняй вясны да восені ахвотна займаюцца на сваіх прыгарадных участках-агародчыках, дзе садзяць і даглядаюць агародніну. Ходзяць яны на прагулкі, у кіно, на тэатральныя спектаклі, ездзяць у санаторый або на экскурсію.

У дыскусіі над справаздачай настаўнікі звярнулі ўвагу на тое, што на працягу чатырох гадоў было шмат супольных культурна-забаўляльных мерапрыемстваў, у якіх удзельнічалі ўсе ахвотныя. Надоўга ў іх памяці застануцца краязнаўчыя экскурсіі ў розныя куткі нашай краіны. І не толькі далёкія паездкі.

Запомніліся некаторыя спектаклі, якія глядзелі ў беластоцкім тэатры, ды кінафільмы. Настаўнікі ездзілі таксама ў оперу. У памяць ім глыбока запалі зімнія кулігі па лесе і гулянне пры запаленых кастрах. Незабыўнае было пячэнне бульбы ў полі за горадам. Надоўга ў памяці засталіся сустрэчы з цікавымі людзьмі, у тым ліку з настаўнікамі-паэтамі. Важна было, каб сустрэцца і правесці час разам, у гурце.

Варта дадаць, што пенсіянеры не забываюць пра сваіх калег, калі тыя цяжка захварэлі і наведваюць іх у бальніцы або дома. Яны і праводзяць сваіх сяброў у апошнюю дарогу. Раз або два разы ў год нясуць і запальваюць зніччы на магілах памерлых настаўнікаў, аднаўляюць прызабытыя магілы.

Зацёды ўрачыста праходзілі, між іншым, святкаванні Дня настаўніка або юбілеі настаўніцкай арганізацыі. Шматлікія педагогі Гайнаўскага павета атрымалі памятныя значкі за 50-гадовую прыналежнасць да Саюза польскіх настаўнікаў. 27 сакавіка г.г. такі значок атрымаў Леанард Кульваноўскі з Гайнаўкі. Уручыла яго юбіляру старшыня гайнаўскага аддзела СПН Аліцыя Пытэль.

У працы секцыі актыўна працавалі Зіна Такаюк, Антаніна Скорук, Альжбета Хмялеўская, Ангеліна Янік, Аліцыя Ханіла і Мікалай Федарук.

На чарговы чатырохгадовы тэрмін паўнамоцтваў старшынёю секцыі выбралі Ірэну Юрчук. У склад праўлення ўвайшлі пяць вызначальных асоб, якія дагэтуль актыўна працавалі да новая асоба — Ніна Бура. Рэвізійную камісію ўзначаліў Мікалай Федарук, дасюлешні член гэтай камісіі.

Новае праўленне намерана працягваць дасюлешнія спраўджаныя ў практыцы накірункі працы і ладзіць сустрэчы з настаўнікамі-пенсіянерамі з азёрнага Аўгустова (яны ахвотныя прыехаць у Гайнаўку і ў Белавежу ды запрашаюць да сябе). Сёлета ў ліпені гайнавяне арганізуюць двухдзённую экскурсію на аўтобусе ў Гродна (Беларусь). Будзе таксама магчымасць паехаць супольна з настаўнікамі з Беластока ў санаторый у Калабжэгу ля Балтыйскага мора.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — каталонскую пагаворку.

1. працэнт ад гектара = 7 _ 4 _;
2. усходняя страва з ягняціны, рысу, цыбулі, спецый... = 10 _ 18 _ 19 _ 9 _ 8 _;
3. месяц мусульманскага посту = 14 _ 13 _ 15 _ 16 _ 12 _ 11 _ 17 _;
4. прадмет для хатняга прасейвання мукі = 20 _ 21 _ 22 _ 23 _ 2 _ 3 _;
5. Анатоль, беларускі паэт (1959-2005) = 1 _ 5 _ 6 _.

(ш)

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| | | | | 17 | 18 |
| | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 11 нумара**

Акула, дыван, зона, лужа, тэрмін, хром.

Рашэнне: **Хвораму і на залатым ложку дрэнна**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яну Міхалюку** з Чыжоў і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Мірaслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2014 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,** BANK PEKAO S.A. O/Białystok 38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# 13.04 — 19.04

**(22.03. — 20.04.)** Ты цяпер зорка ў кампаніі! Шалёныя сустрэчы, але трактуй іх як прыгоды. Або флірт зменіцца ў сяброўскія адносіны (ненайлепш толькі 13-14.04.). Дома з'яднаеш нават тых, хто не стаяў на тваім баку. Зробіш усё, каб паправіць форму, здароўе і красу.

**(21.04. — 21.05.)** Арыгінальнасцю звернеш увагу кагосьці ўплывовага, што прынясе здабыткі. Вялікая доза фантазіі, цікавых прыёмаў у прафесійным плане і антыруціна, паляпшэнне ў адносінах (13-17.04.). Добры настрой, энергія, жыццярадаснасць. Хутка выкараскаешся з магчымай прастуды (асабліва Быкі народжаныя пасля 15 мая). Не абкручвай каханага вакол свайго пальца. Зразумееш хутчэй знойдзеш сярод сяброў чым у радні, схочаш вывалачы з-пад дывана старыя справы. Работа гарыць табе ў руках, мноства прапаноў падзарабіць, усё ж плануй, каб зашчадзіць.

**(22.05. — 22.06.)** Да 16.04. перад табою новыя магчымасці. Адчуеш нарастаючую хвалю энтузіязму і прагу змен. Думай пра дабро іншых. Добры час у пачуццях. Трымайся здалёк ад вострых прылад і прастуджаных людзей. Пертрактуй на працы. Зацікаўся інвестыцыйнымі фондамі; нагоды куплі нерухомасці. 16-20.04. — вельмі спрыяльны час у фінансах (не насі з сабою поўнага кашалька). 17-20.04. цікуе падступны чалавек.

**(23.06. — 23.07.)** Ніхто не звядзе цябе ў пачуццях. Можаш пачаць сувязь, у якой справы пакоцяцца лавінна. Дынамічная сітуацыя на працы, шмат абавязкаў і адрэналіну. Пасля 18.04. у сям'і выявіш чорную авечку. Пачні ачышчальную дыету. Пералом у судовых справах. 13-17.04. будзь спакойны і не ідзі супраць плыні. У дробных справах магчымыя няўдачы, сямейныя турботы і фальшывыя спадзяванні.

**(24.07. — 23.08.)** Добры час на каханне, удалыя рашэнні старых спраў. Калі ты ў стабільнай пары, не ўблытвайся ў агністыя раманы, будуй разважна адносіны. Поўнае зацьменне Месяца (15.04.) прадвяшчае шэраг цяжкасцей і расчараванняў у выпадку любоўных гісторый, кіраваных эмоцыямі. У пастаянных парах сітуацыя набярэ пазітыўных колераў.

**(24.08. — 23.09.)** Будзеш моцны, удачлівы, аптымістычны. Мноства новых задум. Дзева, якая шукае пары, хай сур'ёзна падыходзіць да новых знаёмстваў — не ўсё золата, што блішчыць. Засяродзься на сям'і, аддай ёй больш увагі; 12-16.04. магчымыя сямейныя канфлікты — размаўляй, а не загадвай.

**(24.09. — 23.10.)** Добра дагаворышся ў пары, з суседзямі, забудзешся пра тое, што вас раз'ядноўвала. 13 і 14.04. пільнуйся, каб цябе не падманулі. 16-20.04. — час шчаслівых выпадкаў і цудоўных нагод. Шыкуецца прафесійны прагрэс і знакаміты час у фінансах.

**(24.10. — 22.11.)** 13-14.04. за табою сочыць страла Амура! Сядзь на дыету (поспех!). З 18 (да 23.04.) на працы ты вулкан энергіі, патрабавальны шэф і працаўнік. Добра дапаможаш калегу. 16-20.04. — час інтэнсіўных перажыванняў, папрaвы ў адносінах, добрай фінансавай кан'юнктуры.

**(23.11. — 22.12.)** Цяплічныя ўмовы ў пачуццях у пары. Але для Стральцоў у пошуках — ненайлепшы час. Для „скакуноў убок” — ад 18 (да 23.04.) рызыка скандалаў, асмяшэння або знішчэння рэпутацыі. 14-18.04., калі цябе запросяць на экскурсію ці імпрэзу, будзь вельмі асцярожны; лёгка можна трапіць у катастрофу або заблытацца ў скандал. Больш варушыся. Еж здаровае. 16-20.04. будзе з цябе біць гейзер энергіі і аптымізму, чакаюць цябе шчаслівыя супадзенні, адкрыюцца новыя магчымасці ў фінансах.

**(23.12. — 20.01.)** Аптымістычны настрой, не будзеш пераймацца драбязой і малымі паразамі. 16-20.04. у пары лад і гармонія. Слухай дзяцей. Не еж тлустага і салодкага. 15.04. хтосьці можа перашкодзіць у тваіх планах, заняць тваё месца, або рассакрэціца справы, якія ты лепш схаваў бы.

**(21.01. — 19.02.)** У „закальцаваных” Вадалеяў змаганне паміж поламі. Прымяняй прынамсі паўгадзіны руху ўдзень. Беспярэпынная вышыня ў фінансах (14.04. купі сабе штосьці збыткоўнае!). Поўня інтэлектуальных сіл. Будзеш прадпрымальны, актыўны, ахвотны да рызыкі, без абмяжоўвання сябе. 16-20.04. здабудзеш моцных саюзнікаў. З 17.04. тваё жыццё можа радыкальна змяніцца; не шкадуй!

**(20.02. — 21.03.)** 16-20.04. — найбольш плодныя сустрэчы. Народжаныя на пераломе лютага і сакавіка маюць шанц паладзіць кантакты з кімсьці даўней важным. 13-17.04. хтосьці схоча прыклеіць табе латку цваніка. Галаўныя болі; прыглядзься сваёй дыеце, думай пазітыўна. Паспехі на прафесійным полі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

**Цэнтральныя элімінацыі сорак трэцяга выпуску Дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова», якія 2 красавіка адбыліся ў Бельскім доме культуры, адзначаліся высокім узроўнем дэкламацыі ў выкананні 121 дэкламатара. Дзеткі і моладзь дэкламавалі вершы класікаў беларускай літаратуры і сучасных паэтаў. Аднак найбольш нашым дзеткам і іх настаўнікам падабаецца творчасць Віктара Шведа. Вучні дэкламавалі таксама творы Міры Лукшы, Уладзіміра Гайдука, Зоі Майстровіч.**



Павел Кучынскі з Бельскай белгімназіі

# «РОДНАЕ СЛОВА - 2014»

— У нашай гімназіі да дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова» прыступаюць найчасцей вучні, якія выступалі з дэкламацыяй па-беларуску ўжо ў падставовай школе, хаця частка з іх адмаўляецца ўжо ад дэкламацыі ў гімназічным узросце, — сказала настаўніца беларускай мовы з Гайнаўскай белгімназіі Іаланта Грыгарук, якой усе 5 вучняў выступілі з дэкламацыяй на высокім узроўні.

— Я заўважыла, што дэкламаваць у гімназічным узросце рашаюцца самыя лепшыя дэкламатары, якія перамагалі ў падставовай школе. Я прывезла 5 вучняў з Комплексу школ у Чыжах і сярод іх няма гімназістаў, якія ўжо больш ахвотныя прымаць удзел у прадметным конкурсе па беларускай мове, — заявіла настаўніца беларускай мовы з Чыжоў Валянціна Андрасюк.

У агульным ліку падчас цэнтральных элімінацый выступіла найменш, бо толькі 19, гімназістаў. Аднак дэкламацыя многіх з іх была на роўным высокім узроўні і камісіі складана было выбраць пераможцаў першага і другога месцаў. Першае месца занялі Дамініка Пуц з Гайнаўскай белгімназіі і Павел Кучынскі з Бельскай белгімназіі.

— Мы вельмі любім дэкламаваць і ўжо звыкліся выступаць перад публікай. Аднак самае важнае перадаць сабраным як мы разумеем і адчуваем тое, што дэкламуем, — сказалі мне гайнаўскія белгімназісткі Дамініка Пуц і Мартына Панасюк.

На другім месцы сярод гімназістаў апынуліся Агнешка Ходак і Анна Несцярук з Гайнаўскай белгімназіі і Юстына Марчук з Бельскай белгімназіі.

— Я люблю выступаць з рэфлексіўнымі вершамі аб жыцці. Атмасфера на конкурсе вельмі добрая, а дэкламацыя па-беларуску і слуханне іншых выступоўцаў спрычыняюцца да фармавання нацыянальнай свядомасці, — сказала Юстына Марчук. Яна і дэкламатарка з бельскай «тройкі» Вольга Леснік вучыліся дэкламацыі ў тэатральным калектыве «Антракт» Бельскага дома культуры пад кіраўніцтвам Альжбеты Фіёнік.

Трэцяе месца з ліку гімназістаў занялі Матэвуш Навумюк з Непублічнай гімназіі свсв. Кірылы і Мяфодзія, Наталля Васько з Гімназіі ў Нараўцы і Магда Магрук з Бельскай белгімназіі.

Сярод вучняў IV-VI класаў падставовых школ першае месца занялі Малгажата Галёнка з Непублічнай школы ў Арэшкаве, Аляксандра Салаванюк з Кірыла-Мяфодзіеўскай школы ў Беластоку і Максім Фіёнік з бельскай «тройкі».

— Я выступаю падчас усіх дэкламатарскіх конкурсаў, якія ладзяцца для вучняў у Бельску, бо люблю дэкламаваць і выступаць на сцэне. Да гэтага конкурсу рыхтавала мяне настаўніца беларускай мовы, але дэкламацыі навучыла мяне мама. Я многа гуляю ў тэатр, займаючыся ў тэатральным гуртку «Антракт» пры Бельскім доме культуры і тут таксама вучуся дэкламацыі. Мая мара — вучыцца ў тэатральнай школе, — сказаў Максім Фіёнік, які выступіў з творам «Апошні беларускі князь» Людмілы Рублеўскай.

Ягонай сяброўцы з гурту «Антракт» Аляксандры Зінкевіч таксама падабаецца гульня ў тэатр, асабліва выступы з беларускім неапрацаваным фальклорам.

— Наша настаўніца ведае, што я люблю дэкламаваць вясёлае і такія творы мне падбірае. Трэба разумець і перажываць тое, каб дэкламацыя была ўдалай, — заявіла Аляксандра Салаванюк з Кірыла-Мяфодзіеўскай школы ў Беластоку, якая перамагла ў дэкламатарскім конкурсе.

Другое месца ў катэгорыі старэйшых вучняў падставовых школ занялі ажно 6 асоб, што сведчыць аб роўным узроўні дэкламацыі ў гэтай катэгорыі. Былі гэта Магдаліна Мішчук са школы ў Арэшкаве, Крыстыян Паскробка са школы ў Нарве, Якуб Навумюк з Кірыла-Мяфодзіеўскай школы ў Беластоку, Кацярына Лаўрашук, Ксенія Лукашук і Вераніка Федарук — усе з бельскай «тройкі». Трэцяе месца занялі Агата Беразавец са школы ў Нарве, Мартына Белавежац са школы ў Чыжах, Дар'я Місяюк з Падставовай школы № 6 у Гайнаўцы, Зузанна Бакер з Кірыла-Мяфодзіеўскай школы ў Беластоку, Дар'я Гліва і Давід Дзікоўскі з бельскай «тройкі».

— Мы стараемся дэкламаваць цікавыя тэксты, якія падабаюцца публіцы і дазваляюць паказаць дэкламатарскія ўмеласці, — заявілі вопытныя дэкламатары Агата Беразавец і Крыстыян Паскробка са школы ў Нарве, якія паспяхова выступаюць таксама ў конкурсе «Беларуская гавэнда». Дзяўчаты з чыжоўскай школы Мартына Белавежац, Юлія Ахрымюк і Іза Карчэўская былі рады, што маглі выступіць перад вучнямі многіх школ і падчас перапынку гулялі з дзеткамі з іншых школ, што было добрай нагодай для інтэграцыі.

У катэгорыі вучняў I-III класаў падставовай школы першыя месцы занялі Лена Сульжык са школы ў Гарадку, Іван Карсунскі з Кірыла-Мяфодзіеўскай школы ў Беластоку і Ілья Фіёнік з бельскай «тройкі». Другое месца занялі Ніна Марціновіч са школы ў Нараўцы, Барташ Яканюк з Гайнаўкі, Адрыян Данілюк са школы ў Міхалове і Анна Іванюк з Кірыла-Мяфодзіеўскай школы. На трэцім месцы апынуліся Малгажата Кубай і Павел Грыгарук з бельскай «тройкі», Пётр Кудэрскі са школы ў Ягуштове і Юлія Ахрымюк са школы ў Чыжах.

— Я бачу, што сёння асабліва высокі ўзровень дэкламацыі і складана будзе нашым вучням заняць пераможныя месцы. Аднак, усе нашыя дэкламатары выступілі ўдала і я добрай думкі, а наш Барташ Яканюк асабліва любіць дэкламаваць перад публікай, — заявіла настаўніца Падставовай школы № 6 у Гайнаўцы Беата Кендысь.

Настаўнікі гаварылі, што стараюцца падбіраць вершы, якія падыходзяць да тэмпераменту і зацікаўленняў дзетак, якія павінны добра разумець тое, што дэкламуюць.

— Я на занятках многа ўвагі адводжу фанетыцы, якая асабліва важная падчас дэкламацыі. Мае вучні стараюцца трымацца маіх заўваг наконт правільнага маўлення па-беларуску. У нашай школе больш паловы вучняў вывучаюць беларускай мове. З іх ліку больш за 80% прыступіла да конкурсу. Сёння выступаюць найлепшыя з найлепшых, — сказала Іаанна Марко, настаўніца беларускай мовы ў Непублічнай падставовай школе свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.

Сярод дашкольнікаў першае месца заняў Аляксандр Здрайкоўскі з Прадшколля № 14 у Беластоку, на другіх месцах апынуліся Аляксандра Кобусь з Непублічнага прадшколля імя св. дзіцяткі Гаўрыіла ў Бельску-Падляшскім, Юлія Драневіч і Ніна Белавежац з беластоцкага прадшколля № 14, а трэція месцы занялі Ніколя Рэнгайла з Прадшколля ў Орлі, Мартына Жукоўская з Гаўрылаўскага прадшколля ў Бельску і Мартына Васькоўская з Прадшколля № 14 у Беластоку. Вылучэнні атрымалі дашкольнікі Анна Тарасюк і Наталля Герасімюк з Гайнаўкі і Антон Шум з Рыбалаў.

— Падчас раённых элімінацый вучні некаторых школ вымаўлялі словы з няправільным націскам. На цэнтральныя элімінацыі трапілі самыя лепшыя дэкламатары. Сёння прэзентуюць яны высокі ўзровень, — заявіў Ян Сычэўскі, старшыня БГКТ, якое разам з Бельскім домам культуры дапамагалі Таварыству беларускай культуры арганізаваць цэнтральныя элімінацыі дэкламатарскага конкурсу.

— Узровень дэкламацыі на цэнтральных элімінацыях вышэйшы, чым быў у мінулых гадах і гэта было відаць ва ўсіх катэгорыях. Бачым, што вучні робяць менш моўных памылак. Асабліва цешыць правільнае вымаўленне «л» наймалодшымі дэкламатарамі. З ліку наймалодшых асабліва роўны ўзровень запрэзентавалі дашкольнікі з Непублічнага прадшколля св. дзіцяткі Гаўрыіла ў Бельску, хаця сярод дашкольнікаў з Беластока ёсць асабліва добрыя дэкламатары, — сказаў старшыня конкурснай камісіі доктар Васіль Сегень.

Метадыст па беларускай мове Іаланта Грыгарук дадала, што «Роднае слова», гэта самы масавы беларускі конкурс арганізаваны для дашкольнікаў і вучняў, які служыць інтэграцыі дзетак і моладзі і завязванню сяброўства.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**


Дамініка Пуц з Гайнаўскай белгімназіі

ISSN 0546-1960